PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 13 (2237) Год XLIV Беласток 28 сакавіка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## *Польшча ў НАТО, Беларусь за заслонай*

Яўген Міранові

12 сакавіка Польшча фармальна стала членам Паўночнаатлантычнага дагавору. Мяжа цывілізацыі і рэальных амерыканскіх уплываў перасунулася з Эльбы на Буг. Прычынай гэтаму стала глабальная вайна паміж савецкай Расіяй і ЗША, якая вялася больш сарака гадоў найчасцей праз пасрэдніцтва іншых народаў нашай планеты. Расія прайграла вайну, страціла кантроль над сатэліцкімі дзяржавамі, а пасля таксама частку калоній, з якімі стварала Савецкі Саюз.

У 1945 г. з ваеннай завірухі ў сапраўднасці выйшла толькі двух пераможцаў — ЗША і СССР. Нямеччына ляжала ў руінах, а даўнія імперыі — Вялікабрытанія і Францыя, хаця і святкавалі перамогу, як палітычныя і мілітарныя фактары зышлі на другі план. Вайна бязлітасна выявіла іх сапраўдны патэнцыял. У параўнанні да савецкай Расіі ці Амерыкі ў 1945 г. гэтыя імперыі няшмат значылі. Пасля эвакуацыі большасці амерыканскіх войск, савецкая армія не мела ў Еўропе годнага сябе праціўніка, магла без вялікіх намаганняў заняць тэрыторыю да самага Атлантычнага акіяна. Ялцінскі дагавор з амерыканцамі і англічанамі ад студзеня 1945 г. дазваляў саветам толькі на кантроль усходняй і сярэдняй Еўропы. Сталін, аднак, ніколі ўсур'ёз не ўспрымаў ніякіх дагавораў і ніхто з палітолагаў у сапраўднасці не даў да гэтай пары адназначнага адказу на пытанне: чаму ён не падпарадкаваў сабе ўсю Еўропу? Апрача магутнай арміі спрыялі яму настроі заходнееўрапейскіх грамадстваў, а ў Італіі і Францыі якраз камуністы былі пры ўладзе. Некаторыя пішуць, што саветаў магла паўстрымоўваць свядомасць сілы амерыканскай ядзернай зброі, іншыя, што расіяне не мелі ніякага вопыту ў кіраванні гэтай часткай Еўропы. Сталін вырашыў тады пашыраць сваё панаванне ў Еўропе паступова, кавалак па кавалку, выкарыстоўваючы дзеля гэтага мясцовых камуністаў. Замацоўваў ён перш за ўсё свае ўплывы ва ўсходняй Нямеччыне і Грэцыі. Канфлікт на тэрыторыі гэтых дзяржаў прымусіў амерыканцаў вярнуцца ў Еўропу. Іх дапамога грэцкаму ўраду прывяла да перамогі над камуністычнай партызанскай арміяй. Заходнюю частку Нямеччыны, якая была пад кантролем англійскіх, французскіх і амерыканскіх акупацыйных улад, пераўтварылі ў прастору свабоднага гаспадарчага развіцця, узмацняючы патэнцыял некамуністычнай Еўропы. 4 красавіка 1949 г. ЗША і дзевяць заходнееўрапейскіх краін падпісалі палітычна-вайсковы дагавор, які ў 1955 годзе пашырылі на заходнюю Нямеччыну.

У Еўропе наступіў час раўнавагі страху і палітычнай стабілізацыі. Змаганне паміж савецкай Расіяй і Амерыкай канцэнтравалася ў Азіі, Афрыцы, Паўднёвай і Сярэдняй Амерыцы. Карэя, В'етнам, Анго-

[працяг ☞ 4]




*Пасля сустрэчы ў Беларускім ліцэі. Стаяць (злева): Ян Чыквін, Віктар Швед, Алена Анішэўская, Георгій Валкавыцкі, настаўніца Зінаіда Дзямянюк, Міхась Шаховіч, Дзмітрый Шатыловіч, Сакрат Яновіч, сядзіць — дырэктар Зінаіда Навіцкая.* Фота Міры Лукшы

## „Белавежскія" зубры

„Белавежы" ужо за сорак. Найбольш мацавітыя „зубры" разам з... „маладняком"-равеснікамі Беларускага літаратурнага аб'яднання прыбылі на чарговы справаздачна-выбарчы сход, каб падсумаваць дасягненні, традыцыйна панаракаць, як то старэчы, што мала маладых і заглянуць у будучыню. Паказаліся таксама на сустрэчы (называлася яна „Вялікая", бо гледачоў было больш чым літаратараў) у Бельскім доме культуры а таксама ў Беларускім ліцэі на сустрэчах з моладдзю. Мелі поўныя сумкі кніжак, выдадзеных Літаб'яднаннем і не толькі, і гэта надзейвае. Спансараваў сустрэчу Беларускі саюз, якога членам ёсць „Белавежа", а якога шэф сам таксама піша вершы (не ведалі? — яго творы, хоць нешматлікія, знайсці можна ў анталогіях!). А рыхтуецца ў Мінску (рэдактар Кастусь Свірка) у серыі „Беларускі кнігазбор" магутная анталогія „Літаратурная «Белавежа»", на старонак семсот, добрая памятка і знаёмства для чытачоў з Рэспублікі Беларусь, у рукі якіх не заўсёды трапляе наша кніга.

Справаздачу з дзейнасці склаў старшыня Ян Чыквін. „Старая" „Белавежа" ставіць новыя крокі на новых дарогах.

— Сёння зноў трэба намацваць новыя, свежыя формы літаратурных кантактаў, якія адпавядалі б нашай рэальнасці, нашым інтэлектуальным патрэбам і ўрэшце інтэрнацыянальнаму іх успрыманню. Тым не менш праводзіліся і традыцыйныя семінары, хоць радзей чым раней, з нагоды выйшаўшых кніг, адзначаліся круглыя даты жыцця нашых калег. Прымалі мы ўдзел у агульнапольскай імпрэзе „Wspólnota Kultury". Управа сарганізавала дзве вялікія міжнародныя канферэнцыі, на якія цэнтральныя і ваяводскія ўлады не далі ні граша. Як аднатавала парыжская „Kultura" ў 8 нумары 1998 г., „odrzucony został wniosek o dofinansowanie uroczystości czterdziestolecia Stowarzyszenia Literackiego «Białowieża», którego dorobek, ceniony również za granicą, jest piękną legitymizacją kultury białoruskiej w Polsce"... Найбольшы арганізацыйны імпэт, распачаты ў папярэднія гады і ў гэтай кадэнцыі пайшоў на выдавецкую дзейнасць. Здаецца, імпэт гэты ўсё мацнее, бо калі ў 1990-1995 гг. выйшла пад эгідаю „Белавежы" 13 кніг, то ў 1996-1998 гг., за тры гады, выйшла ў нас іх аж 12...

— На адным з пасяджэнняў управа „Белавежы" рашыла адмовіцца ад сваёй „Літаратурнай старонкі" і замест яе выдаваць прынамсі раз у год свой часопіс, — дадаў старшыня. — Першы нумар „Тэрмапілаў" меў добры водгук.

Масею Сяднёву, які прыслаў ліст, асацыюючы „Тэрмапілы" з польскім парыжскім часопісам „Kultura" і бачыць іх вялікае культуралагічнае значэнне. У дыскусіі, досыць бурнай, сябры „Белавежы" заўважылі выдатныя бакі новага часопіса, аднесліся да загалоўка, які стаў шырэй асацыявацца ўжо не са славутай паразай і прасілі ўнесці ў нататкі камісіі прапанову заўвагу, каб управа літаб'яднання ў будучыні кансультавала з усімі калегамі такія важныя справы, як напрыклад адмаўленне ад літстаронкі ці загаловак часопіса.

Іншымі тэмамі дыскусіі была справа, ці ўводзіць у нашыя рады беларусаў пішучых па-польску (пытанне С. Яновіча „ці можа быць нацыянальная культура на ненацыянальнай мове?" засталося без адказу), а таксама „як мы павінны працаваць, каб выпрацаваць тэхналогію працы" (Яўген Вапа) — каб забяспечваць беларускія школы ў выданні „белавежцаў", пошукі дадатковых сродкаў на дафінансаванне дзейнасці літаб'яднання. Сход рашыў прывярнуць колькасць сяброў управы да 5 асоб. Пасля тайнага галасавання ва ўправе „Белавежы" будуць старшыня Ян Чыквін (выбраны амаль аднагалосна), Яўген Вапа, Віктар Стахвюк, Міра Лукша і Сакрат Яновіч.

**Міра Лукша**

### *Ці „тройка" застанецца „тройкай"?*

„Тройка" захавае свой характар. Аднак гэта не спадабалася апазіцыйнаму клубу *Prawica Samorządowa „Jedność"*. Радны Міраслаў Крушэўскі на сесіі Гарадской рады выступіў з заявай, каб скасаваць у „тройцы" абавязковае навучанне беларускай мовы.

[болей ☞ 3]

### *Беларускі трэці сектар*

Няўрадавыя арганізацыі ў Беларусі, спонсарствам якіх не зацікаўлены мясцовы бізнес, на практыцы прыгавораны карыстацца падтрымкай дзяржавы або замежных крыніц. Гэта пасадзейнічала ўзнікненню асаблівай сефры няўрадавых арганізацый, створаных быццам бы па заказу замежных партнёраў.

[чытайце ☞ 4]

### *Вясна ў Варшаве*

Да мастацтва Лявона Тарасэвіча, як і да асобы самога мастака цяжка захаваць абыякавыя адносіны. Асабліва цяжка дыстанцыю захаваць беларускаму асяроддзю і часткі польскамоўных журналістаў з глухой правінцыі, якія або з мастака робяць штукара, або проста яго не любяць, не разглядаючы ўжо нават самога мастацтва.

[вернісаж ☞ 5]

### *Школа-легенда*

Кожны, хто трапіў у Віленскую беларускую гімназію, ставаўся свядомым беларусам, незалежна ці ўключаўся ў дзейнасць камуністычнай ячэйкі, ці ў нейкую іншую палітычную плынь. Гімназія, без сумненняў, выхоўвала свядомую беларускую інтэлігенцыю.

[юбілей ☞ 5]

### *За кошт найслабейшых*

Ад 1 студзеня 1999 года Дом сацыяльнай апекі „Ракітнік", які раней фінансаваўся дзяржаўным бюджэтам, перайшоў у распараджэнне павета і фінансаваны будзе самаўрадам. Аднак датацыі пойдуць ва ўсе дамы грамадскай апекі, дзе жывуць выхадцы з Гайнаўшчыны, і тады можна не хапіць сродкаў для 57 пацыентаў „Ракітніка".

[паслядоўнасці рэформы ☞ 9]

### *Думаюць пра будучыню*

Асноўнай справай для бурмістра Кляшчэль з'яўляецца пабудова вадасховішча ў Рэпчыцах. Будзе працягвацца пабудова санітарных калектараў пры вуліцах. Знойдзецца падтрымка і для маладзёжнай спартыўнай каманды.

[планы ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Беларусь залівае вада

З сярэдзіны сакавіка на Беларусі пачалася паводка. Па стане на 18 сакавіка яна закранула 19 раёнаў Брэсцкай, Гомельскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей.

Асабліва складаная сітуацыя на Палессі. У Столінскім раёне Брэсцкай вобласці разлілася рэчка Гарынь. Вадой заліло больш 20 вёсак. У Пінскім раёне выйшла з берагоў Піна. Прыпяць прынесла біду ў Жыткавіцкі і Петрыкаўскі раёны Гомельшчыны. Падобнае стыхійнае бедства напаткала Палессе 20 гадоў назад, але па прагнозах спецыялістаў сёлетняя паводка можа быць яшчэ страшнейшай. Сітуацыя ўскладняецца таму, што рэкі яшчэ не вызваліліся ад лёду і ў некаторых месцах узнікаюць заторы. На барацьбу з імі кінуты сапёры. Вайскоўцы таксама ўдзельнічаюць у эвакуацыі насельніцтва з затопленых вёсак. Аднак большасць людзей, пакуль застаецца магчымасць, не пакідае сваіх дамоў. У некаторых населеных пунктах галоўным сродкам перамяшчэння сталі лодкі, а самым дэфіцытным таварам гумовыя рыбацкія боты.

Усяго на Палессі ад вады пацярпелі каля двухсот населеных пунктаў. Трохі лепшае становішча ў паўночнай частцы Беларусі. На Гродзеншчыне разліліся Шчара і Нёман. Вада ў апошнім паднялася на тры метры больш за нармальны ўзровень. У месцы ўпадзення Шчары ў Нёман ствараўся небяспечны ледзяны затор. На мяжы затаплення апынуўся Слонім, аднак вялікай пагрозы няма і ўсё трымаецца пад кантролем. Жыхарам Прынямоння ў барацьбе са стыхіяй дапамагаюць начныя марозы, якія не дазваляюць хутка разлівацца вадзе.

У Гродне, дзе берагі Нёмана вельмі высокія, пагрозы паводкі няма. Але, як вядома, у мінулым стагоддзі, падчас вясенняга разліву, Нёман падмыў стромкі бераг гары, на якой стаіць знакамітая Каложская царква, і палова храма была рабурана. Небяспека паўтарэння трагедыі паўтарылася ў 1996 годзе, але на шчасце ўсё абышлося добра. У Абласным штабе грамадзянскай абароны лічаць, што сёлета Каложы нічога не пагражае.

На Міншчыне ад паводкі пацярпелі каля дваццаці вёсак, а на Магілёўшчыне вада падабралася на мястэчка Глуск і падтапіла некалькі дамоў.

У сакавіку толькі Віцебшчына засталася незакранутай вадзяной стыхіяй. Але ў апошнія дні месяца чакаецца ўскрыццё лёду на Заходняй Дзвіне. Тады і самая паўночная частка Беларусі можа апынуцца пад пагрозай паводкі.

**Зміцер Кісель**

## Знішчаецца Белавежская пушча

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Іван Ціцянкоў названы ў сацыялагічным апытанні найбольш паспяховым бізнесменам Беларусі. І гэта не жарт. Амаль усе значныя будынкі ў буйных і малых гарадах Беларусі з'яўляюцца маёмасцю Адміністрацыі прэзідэнта. Спадар Ціцянкоў прапаноўвае здымаць іх былым уладарам за велізарную арэндную плату.

Дзяржаўны нацыянальны парк „Белавежская пушча", які таксама з'яўляецца маёмасцю Адміністрацыі прэзідэнта, стаў заказчыкам супермоцнага цэха перапрацоўкі драўніны ў вёсцы Камянюкі, што на самой мяжы з Польшчай. Стары лесазавод, які выпускаў сталярныя вырабы і перапрацоўваў толькі сухастой, не задавальняе сучасныя апетыты дзяржаўных бізнесменаў. Набыты за 30 млн. нямецкіх марак пасля 5-гадовага выкарыстання ў Германіі цэх мае магутнасць перапрацоўкі 250 кубаметраў драўніны ў змену. Вядучыя інжынеры брэсцкіх праектных інстытутаў, маючы вопыт такой будоўлі, папярэджваюць — Белавежская пушча будзе знішчана за некалькі гадоў. Падчас вайны фашысцкія вайскоўцы бесперашкодна нішчылі нашы нацыянальныя багацці, але не ўсё знішчылі — нам пашчасціла. Цяпер свае вар'яты за маркі аддаюць тое, што належыць нашым дзецям.

Мясцовыя ўлады далі свае тлумачэнні сітуацыі, як звычайна, з добрай мінай — маўляў, лесапілка будзе перапрацоўваць толькі сухастой. Аднак пры звароце спецыялістаў-праектантаў да сумлення кіраўнікоў з Міністэрства лясной прамысловасці тыя паведамілі, што сухастоем сучасныя ціцянкоўскія „навукоўцы" могуць прызнаць дрэва ўзростам старэйшае за 5 год.

Але бізнес ёсць бізнес і як паведамлялася на сесіі Абласнога савета, мясцовы збор за карыстанне аб'ектамі інфраструктуры ў Камянюках будзе павялічаны да памераў збораў на пераходзе паміж Казловічамі — Кукурыкамі.

На жаль, сённяшнія сілы эколагаў у Брэсцкай вобласці вельмі малыя. Грынпіс пакуль да нас не прыехаў. А можа разам абаронім спрадвечную Белавежскую пушчу?

**Брыгіта Хансен**

## Ганчара абвінавачваюць у самазванстве

Не паспеў старшыня Цэнтрвыбаркама па выбарах прэзідэнта Віктар Ганчар адсядзець 10 сутак арышту, як супраць яго была ўзбуджана крымінальная справа па арт.190 крымінальнага кодэксу РБ (Самавольнае прысваенне звання альбо ўлады службовай асобы, звязанае са здзяйсненнем на гэтай падставе якіх-небудзь грамадска небяспечных дзеянняў).

Абвінавачванне Віктару Ганчару было прад'яўлена 11 сакавіка за некалькі гадзін да вызвалення. Усе дзесяць дзён арышту старшыня Цэнтрвыбаркама трымаў сухую галадоўку. За гэта ён быў падвергнуты катаванням з боку супрацоўнікаў „праваахоўчых органаў", а на пятыя суткі галадоўкі турэмныя лекары гвалтоўна ўлілі яму ў рот 400 грамаў глюкозы.

У дзень вызвалення пад турэмныя вароты сустракаць Ганчара прыйшлі родныя, сябры і журналісты. Але яго патаемна вывезлі з турмы, павазілі амаль дзве гадзіны па горадзе, затым вывезлі на Лагойскі тракт і выкінулі ў снег.

Пасля такога абыходжання Віктар Ганчар некалькі дзён знаходзіўся ў вельмі кепскім стане.

А 16 сакавіка на кватэру да старшыні Цэнтрвыбаркама, без прад'яўлення якіх-небудзь дакументаў, уварваліся людзі ў скураных куртках. Яны ўчыніліператрус, шукаючы зброю і наркотыкі. Удзел у гэтым прымаў і следчы Ляўковіч, які разглядае крымінальную справу супраць Ганчара. Нічога не знайшоўшы, праз гадзіну людзі ў куртках пакінулі кватэру, прыхапіўшы з сабой некалькі дакументаў.

Сітуацыя вакол Віктара Ганчара не толькі драматычная, але і даволі пікантная. Пасля 20 ліпеня, калі па легітымнай для ўсяго цывілізаванага свету беларускай Канстытуцыі 1994 года скончыўся тэрмін паўнамоцтваў першага беларускага прэзідэнта, пад арт. 190 КК РБ можа патрапіць Аляксандр Лукашэнка. У выпадку далейшага знаходжання пры ўладзе яму будуць пагражаць два гады пазбаўлення волі.

**(зк)**

## Уладзімір Плешчанка застаецца ў турме

Ужо сёмы месяц знаходзіцца за кратамі следчага ізалятара Віцебскай турмы старшыня мясцовай Рады БНФ, 50-гадовы Уладзімір Плешчанка. Беларускае правасуддзе абвінавачвае яго ў злосным хуліганстве і знішчэнні гісторыка-культурнага помніка (пад ім улады падразумяваюць бюст Аляксандру Суворову, які быў знішчаны ў Віцебску напрыканцы лета мінулага года). Спадар Плешчанка не адмаўляе свайго непрыхільнага стаўлення да асобы кіраўніка падаўлення паўстання Тадэвуша Касцюшкі, але сцвярджае, што ў разбурэнні помніка ўдзелу не прымаў.

Нарэшце 16 сакавіка ў судзе Кастрычніцкага раёна Віцебска пачаўся разгляд справы Уладзіміра Плешчанкі. На працэсе прысутнічала назіральнік ад групы АБСЕ ў Беларусі Надзея Дударава. У якасці грамадскіх абаронцаў выступілі прадстаўнікі праваабарончага цэнтра „Вясна-96" Алесь Бяляцкі і Валянцін Стэфановіч. Як паведамляецца ў прэс-рэлізе цэнтра, на пачатку судовага працэсу адвакат падсуднага і грамадскія абаронцы звярнуліся да суда з хадайніцтвам аб змяненні меры стрымання Уладзіміра Плешчанкі пад арыштам на падпіску аб нявыездзе. Але суддзя гэту просьбу не задаволіў і пачаў працэс. Былі заслуханы некалькі сведкаў. Аднак неўзабаве высветліўся факт грубейшага парушэння працэсуальных нормаў з боку следства і пракуратуры. Аказалася, што падсудны не быў азнаёмлены перад пачаткам суда з абвінаваўчым заключэннем. Яму далі толькі першы ліст заключэння, але затое ў трох экземплярах. Суд быў спынены. Адвакат і грамадскія абаронцы зноў падалі хадайніцтва аб змяненні меры стрымання. Яно не было задаволена і Уладзімір Плешчанка зноў быў накіраваны за краты. Ён будзе знаходзіцца там да аднаўлення судовага працэсу, якое прызначана на канец сакавіка.

**(зк)**

## Лукашэнка будзе ўзмацняць абарону

У сувязі з уваходам Польшчы ў НАТО Аляксандр Лукашэнка збіраецца павялічваць баяздольнасць беларускага войска.

— Мы вынуждены считатся с тем, что наша граница с Польшей фактически становится границей с блоком НАТО, — заявіў ён 12 сакавіка падчас візіту ў Кіеў.

Прэзідэнт Біларусі паабяцаў у бліжэйшы час разгледзець на Савеце бяспекі пытанне пра ўзмацненне беларускіх узброеных сіл.

— Мною, как главнокомандующим, отдано распоряжение о том, чтобы были внесены достаточно серьёзные предложения по реформированию наших вооружённых сил, — дадаў ён.

Лукашэнка падкрэсліў, што ў Беларусі з Расіяй адзіная абаронная прастора і зараз вядуцца кансультацыі паміж Мінскам і Масквой па пытанню пашырэння НАТО.

Аднак вяртання ядзернага ўзбраення на Беларусь не чакаецца.

— Об этом речи никогда не было, — сказаў Лукашэнка 17 сакавіка. — Россия вывела это ядерное оружие вопреки моему желанию, и у них желания пока вводить его сюда нет. Они просто Запад пытаются попугать. А я уже сказал: „Вы Белоруссией, как дубиной под носом у Запада размахивать не будете".

Яшчэ некалькі тыдняў таму Аляксандар Лукашэнка казаў, што расейскія ядзерныя ракеты павінны вярнуцца на Беларусь. Але зараз ён катэгарычна адмаўляецца ад сваіх словаў, абвінавачваючы ў скажэнні яго выказванняў расійскіх журналістаў і палітыкаў. Аднак гэтыя выказванні былі распаўсюджаны не толькі па расійскіх масмедыях, але і беларускім тэлебачаннем. Такім чынам беларускі прэзідэнт яшчэ раз даказаў усяму свету, што ён гаспадар свайму слову. Сам даў — сам назад забраў.

**(зк)**

## Як я пераходзіў перапіс беларусаў

Недзе ў сярэдзіне лютага да нас у дом завітала даволі сімпатычная жанчына, папярэдзіла, што будзе праводзіць перапіс насельніцтва. Я пачаў размову з ёю, жонка таксама тое-сёе дабавіла, прыемна сабе паразмаўлялі на двухмоўі: мы — па-беларуску, яна — на расейскай мове, ды разышліся.

22-га прыйшла яна ізноў, гэтым разам ужо з перапіснымі лістамі. Ды толькі ўсё — на расейскай мове. Шкада, канечне, чалавека, але завярнулі мы бедную кабеціну — нясі беларускамоўныя.

А ўсё ж не абышлося без смеху: бедалага беларускаю моваю такі не валодала. Папамучыліся мы, дапамагаючы ёй скласці запісы па-беларуску: то замест „настаўнік" напісала яна „вучыцель", то „Польшчу" стала пісаць праз расейскае **щ**. Мы нават прасілі яе спачатку патрэніравацца на асобным лістку, а ўжо потым перанесці ўсё на афіцыйны бланк. Ды і тое была б невялікая бяда, каб яна пад канец не запыталася, чаго гэта мы гэтак учапіліся за беларушчыну? Маўляў, на яе ўчастку мы ці не адзіныя, хто валодае ды ўжывае чыстую літаратурную мову. Астатнія запісаліся неяк невыразна: з аднаго боку нібыта беларусы, а валодаюць толькі мясцовую гаворкаю, дыялектам, а роднай прызнаюць расейскую мову.

Прыйшлося прачытаць ёй невялічкую лекцыю на гэтую тэму. А горшае яшчэ іншае: канчаткова зразумелі мы і мэты перапісу, і палітыку нашых улад у адносінах да Беларусі. Не здзіўлюся, калі праз некаторы час хто-небудзь з паноў зімоўскіх трымцячым ад трыумфу голасам заявіць праз „яшчык", што такі няма беларусаў на Беларусі.

І апошняе: калі мяне бяруць на службу, то ацэньваюць нейкія прафесійныя якасці. Гэтую ж кабету нанялі проста так: ні мовы яна не ведае, ні свядомасці аб Радзіме ў яе няма, усё ёй абыякава, абы толькі пазапісваць нешта ў паперку, а думаць — „няхай конь думае, у яго галава вялікая". Вось тут, на мой погляд — галоўны паказчык „патрыятызму" нашага чынавенства ды іх адносін да Беларусі, да тых самых беларусаў, якія сваімі ўласнымі рукамі гэтую ўладу сабе пасадзілі на шыю, а цяпер яшчэ раз будуць цугам перці на выбарчыя ўчасткі на каталіцкі Вялікдзень. Кропка, прыехалі. Не, браточкі, хопіць. Калі што і трэ было б у голас крычаць пасля „перапісу пагалоўя" манкуртаў, манкуртамі ж і арганізаванага — гэта толькі: **„ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!"**

Баліць душа. Прабачце.

**Андрэй Яўтуховіч**

# Узнікне комплекс беларускіх школ

У час пасяджэння рады Гайнаўскага павета, якое адбылося 15 сакавіка 1999 года, прынята была пастанова аб стварэнні ад 1 верасня г.г. Комплексу школ з навучаннем беларускай мовы. Каб стварыць згаданы комплекс, апрача просьбы Бацькоўскага камітэта і Рады настаўнікаў Белліцэя патрэбны былі згода Рады горада Гайнаўкі, пагадненне паміж управамі горада і павета і дабро Куратары ў Беластоку. Хаця староста Гайнаўскага павета выступіў у Куратарыю ўжо 26 лютага, то толькі 15 сакавіка, у апошні дзень, калі можна было яшчэ прымаць рашэнні аб стварэнні гімназіі, атрымалі адказ. На шчасце станоўчы!

Пры абмеркаванні праекта пастановы аб стварэнні Комплексу школ пачалася дыскусія наконт поўнага названня школы. Паводле ўказа Міністра нацыянальнай адукацыі ад 15 лютага г.г. школы нацыянальных меншасцей падзяляюцца на тры групы: школы з мовай навучання нацыянальнай меншасці (4-5 гадзін у тыдні заняткаў па роднай мове); школы двухмоўныя (столькі гадзін вучобы роднай мовы, колькі гадзін навучання польскай мовы); школы з дадатковым выкладаннем роднай мовы (3 гадзіны ў тыдзень).

Раней дырэктар Я. Сачко ад імя Бацькоўскага камітэта Белліцэя выступіў у Раду павета з просьбай стварыць Комплекс школ з навучаннем беларускай мовы, а не з дадатковай беларускай мовай навучання, як прапанавала Рада горада.

— Калі даведаліся мы аб згаданым указе Міністра нацыянальнай адукацыі ад 15 лютага г.г., Управа Бацькоўскага камітэта аднагалосна прыняла пастанову, каб гімназіі і Комплексу школ надаць статус устаноў з навучаннем беларускай мовы, а не з дадатковай беларускай мовай навучання, — сказаў дырэктар Белліцэя Яўген Сачко.

Камісія асветы падтрымала прапанову Бацькоўскага камітэта, а пасля зацвердзіла яе і Рада павета.

Канчаткова прынята пастанову (16 радных за і 6 устрымалася) аб стварэнні ад 1 верасня 1999 года Комплексу школ з навучаннем беларускай мовы. Будзе ён змяшчацца ў будынку сённяшняга Белліцэя, у якога склад уваходзіць будуць: трохгадовая гімназія з двума, трыма аддзеламі і трохгадовы ліцэй з трыма і чатырма аддзеламі. Для згаданых школ не прадбачаны акругі навучання, так што будуць маглі паступаць у іх не толькі вучні з Гайнаўкі, але з усёй Гайнаўшчыны, а беларуская мова будзе ў іх абавязковым прадметам.

**Аляксей Мароз**

# Абавязковая гімназія

У бягучым годзе ўрад уводзіць школьную рэформу. З верасня вучні, якія закончаць 6 класаў будуць паступаць у трохгадовую гімназію — першы этап сярэдняй школы.

Гімназіі былі калісьці ў дарэвалюцыйнай Расіі і ў Польшчы да 1948 года. Цяпер гімназіі будуць не толькі ў гарадах, але таксама ў гмінных цэнтрах.

У Нараўцы ніколі не было сярэдняй школы, а зараз плануецца тут гімназія, у якую будуць давозіць вучняў з усёй гміны. Адначасова абмяжуюцца школы ў Ляўкове і Семяноўцы да 6-гадовай падставоўкі.

Назва „гімназія" гучыць высокаўрачыста.

У старажытнай Грэцыі так называлася месца сходаў вучоных і філосафаў.

Раней, у даваеннай Польшчы, вучыліся ў гімназіях дзеці багацеяў. Гімназія была платная і беднякам недаступная. У платнай гімназіі вучыліся тыя, што імкнуліся да ведаў і навуку лічылі гонарам. Сёння не той час і вучыцца павінны ўсе.

Ці абавязковая гімназія будзе гонарам для сучасных гімназістаў?

Здаецца, што не, бо апрача выдатных і добрых школьнікаў у гімназію абавязкова паступяць невукі, якія не палюбілі чытаць, пісаць, рахаваць, абстрактна думаць.

Калі ў класе многа невукаў, настаўніку немагчыма зрабіць высокі ўзровень навучання. Праца ў гімназіі будзе нялёгкай і таму, што моладзь 13-16-гадовага ўзросту праходзіць перыяд так званага „юнацкага бунту". Падлеткі часта самі не ведаюць чаго хочуць і без выразнай прычыны бунтуюцца супраць улады дарослых. Пры папярэднай дэмакратыі, калі вучні атрымалі многа свабоды, цяжка ўтрымаць належную дысцыпліну.

На маю думку назву „гімназія" лепш было б замяніць назвай „няпоўная сярэдняя школа". У сельскім асяроддзі людзі не разумеюць новай школьнай рэформы.

Можа здарыцца так, што найбольшыя невукі па сваёй несвядомасці заўпарцяцца і адкажуцца паступіць у гімназію. Частка гімназістаў закончыць вучобу і не паступіць у ліцэй ці прафесійную школу. Сама гімназія на практыцы нічога не дасць. Настаўнікі баяцца застацца без працы. Частка з іх папоўніць рады беспрацоўных. Але ўсё пакажа час.

**Мікалай Варанецкі**

# Арлянская моладзь патрабуе культуры

Раней гмінныя культурныя ўстановы ў Орлі працавалі намнога лепш чым пры цяперашнім самаўрадзе. Сёння арляне з чуллівасцю ўспамінаюць той час, калі домам культуры загадвала Вера Валкавыцкая, а пасля ейны сын Аляксандр. І хаця жыллёвыя ўмовы былі дрэнныя, кіраўнікі ўмелі прыцягнуць да супрацоўніцтва моладзь і дарослых. Калі ў 1986 г. Гмінны асяродак культуры (ГОК) атрымаў памяшканне ў пажарным дэпо, Ільля Адзіевіч і Пётр Кудэрскі таксама паспяхова спраўляліся з культурнымі патрабаваннямі жыхароў мястэчка і гміны. Гэты апошні адзначае, што тады ў ГОК заўсёды было многа моладзі.

У пачатку 1990-х гадоў ГОК перасяліўся ў новы будынак, побач былой сінагогі, а яго кіраўніком стала Аліна Петручук. І хаця ўмовы працы палепшыліся, культурная праца стала хіліцца к заняпаду. Большасць жыхароў гміны нават не ведае, што такая ўстанова існуе ў Орлі. Пасля некалькіх гадоў бяздзейнасці Гміннага асяродка культуры абураная моладзь у студзені г.г. напісала войту скаргу з патрабаваннем адмяніць маразм у гэтай установе. А калі кіраўнічка ГОК прабавала перад Гміннай радай абвяргнуць закіды, моладзь напісала чарговую скаргу і патрабуе ад войта даць ім пісьмовы адказ.

Пад скаргай падпісалася 26 чалавек. Абвінавачваюць яны кіраўнічку ў тым, што не праяўляе яна ніякай ініцыятывы — пры ГОК здаўна існуе толькі калектыў „Арляне", у якім займаюцца пенсіянеры. Управа гміны купіла музычныя інструменты, але моладзь не можа дамовіцца з кіраўнічкай наконт рэпетыцый калектыву, у выніку чаго калектыў спыніў дзейнасць. Моладзь наракае, што праца кіраўнічкі па сутнасці зводзіцца да адкрывання і закрывання дзвярэй. Падпісанты патрабуюць аб'явіць конкурс на гэтую пасаду.

Маладыя людзі маюць яшчэ жаль да радных, большасць якіх абыякава паставілася да іхніх патрабаванняў, аднак абяцаюць сабе, што давядуць справу да канца і верацъ, што ў ГОК адновіцца бурлівае культурнае жыццё.

**(лч)**

# Ці „тройка" застанецца „тройкай"?

У Бельску, пастановай Гарадской рады, будуць створаны тры гімназіі: у будынках пачатковых школ н-р 1, н-р 3 і н-р 4. У дзвюх апошніх побач сябе будуць і падставоўкі, і гімназіі. Прытым „тройка" захавае свой характар *szkoły bezobwodowej*, г.зн. школьную акругу яе будзе складаць увесь горад. Пасланць у яе дзіця можа кожны жадаючы жыхар Бельска. Са свядомасцю, аднак, што будзе яно вывучаць беларускую мову.

Гэта не спадабалася апазіцыйнаму клубу *Prawica Samorządowa „Jedność"*. Радны Міраслаў Крушэўскі ўжо на той жа сесіі Гарадской рады 26 лютага выступіў з заявай, каб скасаваць у „тройцы" абавязковае навучанне беларускай мовы. Прапанова не прайшла ў галасаванні.

— Запіс аб абавязковым навучанні беларускай мовы ў публічнай гімназіі ў пастанове Рады горада абмяжоўвае доступ да школы дзецям, бацькі якіх не згадзіліся на навучанне гэтай мовы, што ідзе ўразрэз з законам аб сістэме асветы ад 7.09.1991 г., у якім сцвярджаецца, што *szkołą publiczną jest szkoła, która przeprowadza rekrutację uczniów w oparciu o zasadę powszechnej dostępności*, — кажа Вітальд Сысула. — Такія абмежаванні могуць уводзіцца толькі ў статут школы, але паколькі няма гімназіі, няма і статута.

Іншы погляд на справу выказаў бурмістр Андрэй Сцепанюк:

— Калі хто не хоча, каб яго дзіця вывучала беларускую мову, можа яго запісаць у іншую гімназію.

Дырэктар Пачатковай школы н-р 3 Васіль Ляшчынскі спасылаецца на распараджэнне міністра нацыянальнай адукацыі ад 15 лютага гэтага года *w sprawie warunków i trybu przyjmowania uczniów do publicznych przedszkoli i szkół oraz przechodzenia z jednych typów szkół do innych*. Трэці параграф распараджэння забавязвае асветныя органы ствараць сетку публічных школ, якая адпавядае адукацыйным патрэбам асяроддзя.

— Такая форма навучання беларускай мовы, якую маем у нас і ў суседнім ліцэі адпавядала грамадству больш чымсьці сорак гадоў. А цяпер мае быць неадпаведнай? — пытаецца ён рытарычна.

Гэта адначасна і адказ на закід, што ні „тройка", ні Агульнаадукацыйны ліцэй імя Б. Тарашкевіча не з'яўляюцца беларускімі школамі, бо ўсе прадметы там выкладаюцца па-польску. А навучанне беларускай мовы на такіх самых прынцыпах можна ўвесці ў любую іншую школу. Былі б толькі ахвотныя.

— Калі раскінуць навучанне беларускай мовы па розных школах Бельска, якраз гэтых ахвотных не будзе, — лічыць Васіль Ляшчынскі. — А так, усе ў горадзе ведаюць, што ў нас трэба вучыцца беларускай мове. І вучыцца каля тысячы. Ужо на наступны год я маю больш ста запісаных дзяцей.

Распараджэнне Міністэрства нацыянальнай адукацыі ад 24.03.1992 года *w sprawie organizacji kształcenia umożliwiającego podtrzymanie poczucia tożsamości narodowej, etnicznej i językowej uczniów należących do mniejszości narodowych* сцвярджае, што навучанне мовы дадзенай меншасці можа адбывацца, між іншым, у „школах з дадатковай навукай роднай мовы". Дакладна, як у „тройцы".

Куратар асветы Падляшскага ваяводства Веслаў Ружанскі нічога аб пратэстах у Бельску не ведае. Не бачыць падстаў, каб адмяняць пастановы Гарадской рады, у чыёй кампетэнцыі падставовыя школы і гімназіі. Адначасна просіць не называць „тройку" беларускай школай:

— У Польшчы ёсць, напрыклад, літоўскае школьніцтва, — кажа куратар, — але не беларускае.

На сённяшнім этапе асветнай рэформы ўсё паказвае, што бельская „тройка" застанецца „тройкай", г.зн. школай, дзе ўсе вучні з другога класа вывучаюць беларускую мову. І дзе ўся беларускасць зводзіцца да трох гадзін у тыдзень гэтага маргінальнага прадмета.

Не маем магчымасцей, як грамадства, каб змяніць гэтую выпрацаваную на працягу больш сарака пасляваенных гадоў паланізацыі традыцыю. Можа быць толькі горш — у іншых школах не будзе нават гэтых трох урокаў.

**Мікола Ваўранюк**

# Размова ў „Нітэрве"

Аб тым, што аплачваецца інвеставаць у мадэрнізацыю прадпрыемства, не трэба зараз нікому два разы паўтараць. Пераканаліся ў гэтым у кляшчэлеўскай „Нітэрве".

— У снежні мінулага года мы паставілі новы кацёл для адваркі сальцісонаў і каўбас, — кажа Янка Шмукса, адказны за прадукцыю ў масарні Юркі Залеўскага. — Кацёл каштаваў 20 тыс. зл. Агравацца ён саляркай. Рэзервуар хапае запраўляецца аднаразова 1000 літрамі паліва. І гэтага хапае нам на тры месяцы. Даўней за гэты час спальвалі мы амаль дзве тоны вугалю, а гэта напалову даражэй. Непатрэбны таксама качагар, які апальваў кацельню. Зараз ён выкарыстоўваецца ў прадукцыі. А прытым забруджанне паветра меншае. Тэмпературу вады ў катле, час адварвання вырабаў, як і падачу паліва рэгуліруе камп'ютэр, а гэта эканоміць час працы работніка, які абслугоўвае кацёл.

Карыстаючыся нагодай, пазнаёміўся я з новай тэхнікай ды цыклам вытворчасці ў масарні. Спадабалася мне ў гэтай установе. Усюды чысціня і парадак, а і вырабы смачныя.

— Мы ж рыхтуемся ў Еўрапейскі Саюз, — усміхаецца Янка Шмукса. — А туды хаўтуршчыкаў і неахайных прадпрымальнікаў не прымаюць.

**Уладзімір Сідарук**

# Аднадумнасць радных

Чарговая сесія Рады гміны ў Чаромсе, якая адбылася 2 сакавіка 1999 года, амаль поўнасцю прысвечана была фінансавым справам. Бюджэт чаромхаўскай гміны складае 4 653 тыс. зл. Радныя аднадумна прызначылі грошы на паасобныя мэты, а гэта таму, што раней да згоды дайшлі дарогай кампрамісу ў паасобных камісіях.

На сесіі радныя прынялі рашэнне аб арганізаванні ў Чаромсе гімназіі. Будзе яна часова змяшчацца ў будынку Пачатковай школы.

— У пачатках рэформы такое дазваляецца Міністэрствам адукацыі, — сказаў дырэктар Мікалай Міхалюк. — Пазней, каб прыдаць ранг гімназіі, рэкамендуецца перанесці яе ў асобны будынак.

У Чаромсе не будзе лішніх праблем са школьнай рэформай. Дзяцей будуць надалей вазіць гмінным транспартам. Для двух першых гімназічных класаў ёсць адпаведная колькасць вучняў і дзве свабодныя залы для заняткаў.

У наступных гадах плануецца перанесці гімназію ў будынак былога ЗДЗ. Справа толькі ў грашах. З планаваных восенню мінулага года сродкаў Міністэрства адукацыі ўжо зараз абрэзала 6000 зл., а гэта на чаромхаўскія ўмовы вельмі многа.

**(ус)**

# Школа-легенда

1 лютага 1919 г. пачаліся заняткі ў Віленскай беларускай гімназіі. Ідэя стала рэальнасцю: настаўнікі, вучні і Базыльянскія муры, першыя падручнікі, а ўсё гэта дзякуючы беларускай інтэлігенцыі, якая свае веды, энергію аддала працы ў гімназіі. Ініцыятыва стварэння гэтай школы належыць Івану Луцкевічу, які вёў перамовы з літоўскімі ўладамі. Гімназія заснавала наперакор лёсу — Вільня мяняла дзяржаўную прыналежнасць, умовы былі зусім неспрыяльныя для беларускасці. Увесь час трэба было за яе змагацца. Уся беларуская інтэлігенцыя, якая на месца свайго пражывання выбрала Вільню, а не Мінск, круцілася вакол гімназіі, ці то навучаючы ў ёй, ці пасылаючы на навуку сваіх дзяцей, ці падтрымоўваючы ў нейкі іншы спосаб гэтую школу. З гімназіяй звязаны такія асобы як: Браніслаў Тарашкевіч, Міхась Кахановіч, Антон Нэканда-Трэпка, Радаслаў Астроўскі, Антон Луцкевіч, браты Мікола і Хведар Ільяшэвічы. Усе яны, з-за сваёй падзвіжніцкай працы, замоўчваліся ў часы савецкай русіфікацыі Беларусі. І сама гімназія амаль адышла ў забыццё. А існавала ж яна бесперапынна на працягу 25 гадоў да 1944 года, настаўнікамі ў ёй працавалі ўжо яе выхаванцы, а з імі — безупынна — настаўніца беларускай мовы Алена Сакалова-Лекант.

Кожны, хто трапіў у Віленскую беларускую гімназію, ставаў свядомым беларусам, незалежна ці ўключаўся ў дзейнасць камуністычнай ячэйкі, ці ў нейкую іншую палітычную плынь. Гімназія, без сумненняў, выхоўвала свядомую беларускую інтэлігенцыю, якой лёс не ашчадзіў сібірскіх лагераў. Некаторыя па сённяшні дзень ад страху скрываюць нават перад сваёй сям'ёй, што вучыліся ў беларускай школе. Іншыя зноў, нягледзячы на ўсё перажытае, не забываюць сваёй школы, перахоўваючы ўспаміны, здымкі. Здавалася, сталінскія часы зрабілі сваё: людзі адпакутавалі за беларускасць у лагерах і ніштo іх не зможа вярнуць у „нацыяналістычную" стыхію. Але яны пасля сібірскіх лагераў сустракаліся, разам святкавалі 25 Сакавіка на прыватных кватэрах, бо інакш нельга было. Часта спрачаліся, як сказаць тое ці іншае слова правільна на беларускай мове. „Правільна будзе так, як казала Алена Сакалова-Лекант", — пераканаўча канчаў сваркі аўтарытэтны аргумент. Урэшце на хвалі адраджэння беларускасці ў пачатку 90-х гадоў у Вільні загаварылі і пра аднаўленне гімназіі яе былыя вучні, сярод якіх самым актыўным быў Лявон Луцкевіч. Гімназія пачала працу ў 1994 годзе. Тады ў маі ўрачыста святкавалася 75-годдзе Віленскай беларускай гімназіі. З'ехаліся гімназісты з Літвы, Беларусі, Польшчы. У Базыльянскіх мурах, якія памятаюць гоман беларускай дзетвары, сустрэліся былыя вучні, запрошаныя госці і афіцыйныя ўлады Літвы і Беларусі. Пакойны Лявон Кароль паказаў нам магілы настаўнікаў, на якіх здаўна пэўна не ляжалі кветкі ад беларусаў. Усе гаварылі пра круглы юбілей — 80. Колішнія вучні з пэўным недаверам пыталі: „Ці дажывём?" 80-я ўгодкі ладзіліся 31 студзеня 1999 г. таксама ў Базыльянскіх мурах. Аднак былых вучняў было намнога менш. Няма ўжо ў жывых Зоі Каўшанкі, Веры Путрыкевіч, Веры Шостак, Лявона Караля, Лявона Луцкевіча. З Польшчы на юбілей прыехала Аўгіння Ярмалковіч (для гімназістаў-равеснікаў — Шляхтунянка), якая жыве ў Біскупцы-Рэшальскім. Прывезла з сабой 48 здымкаў з часоў навукі ў гімназіі. І гэта не ўсё — як сказала.

Святкаванне 80-х угодкаў пачалося з набажэнства ў гонар ВБГ у касцёле св. Бартламея (на беларускай мове) і — як аказалася пасля — у трох віленскіх цэрквах. У Базыльянскіх мурах, дзе на першым і другім паверсе знаходзілася гімназія, у колішнім актавай зале святкаванне пачалося з гімна „Магутны Божа". Пасля Галіна Война, былая вучаніца, расказала гісторыю гімназіі і прыпомніла выдатных яе настаўнікаў. Гімназію на працягу 25-гадовага яе існавання назвала кузняй беларускай інтэлігенцыі. Сяржук Вітушка, які рупіцца пра спадчыну ВБГ, расказаў пра фатаграфічную выстаўку падрыхтаваную да юбілею. На ёй экспанаваліся здымкі з розных гадоў працы гімназіі і таксама сучасныя — з 75 угодкаў. Хведар Нюнька, які ўдзельнічаў у Кангрэсе дэмакратычных сіл у Мінску зачытаў прывітанне ад Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына". Галіна Сівалава, цяперашняя дырэктарка гімназіі, гаварыла з надзеяй пра будучыню гімнагіі. Сын Міхася Анцукевіча, дырэктара гімназіі ў 1941 годзе, прынёс картку з бацькавага дзённіка, дзе пад датай 17 мая 1941 г. была вестка пра наведанне школы Якубам Коласам і Янкам Купалам. Мікола Рулінскі, чалавек-легенда, выступіў з патрыятычнай прамовай і загадаў мінутай маўчання ўшанаваць памяць памерлых вучняў і настаўнікаў. На 80-я ўгодкі прыйшло шмат прывітанняў з замежжа, з Польшчы — ад Мацея Канапацкага.

У мастацкай частцы, якую вяла Ліда Грынюк (настаўніца беларускай мовы), прагучалі беларускія песні ў выкананні вучняў гімназіі, якіх падрыхтавала настаўніца спеваў Валянціна Кавальчук. На заканчэнне выступіў дзіцячы хор „Спадчына" Таварыства беларускай мовы з Друскенік, якім кіруе Маргарыта Пузыновіч.

Таварыства беларускіх арганізацыяў у Літве, якім кіруе Лявон Мурашка, на заканчэнне запрасіла былых вучняў на сяброўскую сустрэчу.

Здавалася б, школа як школа, юбілей як кожны іншы. Калі б не пакутны лёс заангажаваных у працу школы беларускіх інтэлігентаў і ейных вучняў, можна было б пра юбілей толькі ўспомніць. Здаецца, жыццё гэтай школы, адноўленай пасля паўвекавога забыцця павінна стаць узорам адносін між вучнямі і настаўнікамі ды заангажаванасці ў выхаванне беларускай моладзі. А школа як школа, былі ў ёй і сумныя і радасныя здарэнні. Сёння колішнія вучні ўспамінаюць першыя каханні, перакладаючы здымкі сваіх сімпатыяў. Для іх — яны ўспамін даўніх часоў, для нас, сучасных, бяздакорны доказ таго, што і на беларускай мове можна было падпісаць здымак блізкай сяброўцы і сябру. І гэта было нармальна.

Сёння застаецца мець надзею, што Віленская беларуская гімназія дачакаецца сваёй манаграфіі. Пакуль варта збіраць здымкі, успаміны, факты, бо Віленская беларуская гімназія — гэта частка гісторыі беларускай культуры.

**Лена Глагоўская**

# Польшча ў НАТО, Беларусь за заслонай

[1 ☞ працяг]

ла, Куба, Сальвадор, Палесціна, Афганістан і сотні меншых канфліктаў вызначалі лінію фронту гэтай глабальнай вайны. У васьмідзесятых гадах спаборніцтва закранула нават космас. Вырашальную ролю ў гэтай вайне адыгрывала эканоміка. Пры канцы сямідзесятых гадоў Амерыка разам са сваімі васаламі мела гаспадарчы патэнцыял у тры разы большы чым савецкі лагер. Гэта абазначае, што саветы, каб стварыць мілітарную раўнавагу, вымушаны былі павялічыць долю нацыянальнага прыбытку, накіраванага на ўзбраенне ў тры разы больш, чым Амерыка са сваімі саюзнікамі. Зразумела, што ўсё гэтае магло толькі адбіцца коштам узроўню жыцця грамадства. Нейкі час унутраную стабілізацыю забяспечвалі моцна разбудаваныя савецкія міліцыйныя службы, але ў канцы трэшчыны пачалі з'яўляцца нават у самім Савецкім Саюзе. На афганскую вайну расіяне выдаткавалі сумы ў 10 раз большыя чым амерыканцы. Не хапала ім сродкаў, каб запоўніць крамы на сваёй тэрыторыі, не ўспамінаючы пра васалаў. Ніякая камуністычная „Салідарнасць" не ўзнікла ні ў Францыі, ні Італіі, ні Нямеччыне таму, што не было там дзеля гэтага эканамічных прадпасылак.

Камуністычная сістэма не вытрымала канкурэнцыі, а толькі здэмаралізавала грамадства. Яе развал — гэта перш за ўсё вынік банкруцтва гаспадаркі і ўнутраных супярэчнасцей. Былыя сатэліты Расіі кінуліся ў абдымкі пераможцаў, шукаючы там прыстанішча і гарантый бяспекі. Некаторыя, напрыклад палякі, дэманструюць гатоўнасць выконваць усе загады новых пратэктараў, нават схільны пасласць свае войска пацыфікаваць сербаў. З другога боку, лукашэнкаўская Беларусь, інтэгруючыся з Расіяй, не скрывае свайго адмоўнага стаўлення да НАТО. Польска-беларуская мяжа напэўна цяпер не стане „мяжой дружбы", праўдападобна будзе штораз больш шчыльнай, а нацыянальныя меншасці па абодвух яе баках стануць прадметам зацікаўлення ўсялякіх службаў. Ізаляваная ад захаду Беларусь практычна можа мець толькі адзін вектар свае палітыкі — далейшае яднанне з Расіяй з усімі гэтага пасьлядоўнасцямі для нацыянальнага жыцця.

**Яўген Міранові́ч**

# Вінаваты простыя людзі

„Насамперш было Слова,...". Усе рэчы з яго ўзяліся. Затым калі няма беларускага слова, няма і беларусаў. Гэта вядома здаўна, толькі пасол Ян Сычэўскі аб гэтым не ведае, забіваючы свой асінавы кол на магіле нацыянальнасці (гл. „Kurier Poranny" ад 13.02.1999 г.). Так, так. Калі ўсё апалячана і няма нават беларускіх назваў вёсак, то няма і беларусаў. Помню, што мая першая карэспандэнцыя ў „Ніву" тычылася гэтай тэмы. Ян Сычэўскі гаворыць, што „akcja przywracania białoruskich nazw miejscowości we wschodniej Białostocczyźnie (...) skończyła się fiaskiem". І гэта толькі таму, што мясцовыя людзі гэтага не хацелі. Значыць, не ўлада тут вінаватая, а людзі так хочуць. Была ж калісь у нас дэмакратыя лепшая, бо сацыялістычная. Цяпер „за" галасуе 30%, а калісь — 99,99%. Калі каму гэта не падабалася, мог выбіраць апеку спецслужбаў або маўчанне. Мінае ўжо дзесяць гадоў дэмакратыі, а пасол Ян Сычэўскі як бы гэтага не заўважае. Тады, калі хацелі ўводзіць двухмоўныя назвы, так папраўдзе ніхто людзей не пытаў, а за ўсім гэтым сачыла міліцыя. Адміністрацыя казала, што няма законаў, якія дазвалялі б уводзіць беларускія назвы. Пра тое, што няма законаў, якія б не дазвалялі ўжо ніхто не ўспамінаў.

Цяпер маем самаўрады. Ва ўладах гэтых жа самаўрадаў дзейнічаюць свядомыя, прынамсі так сябе яны называюць, беларусы. Тады пытаю: што перашкаджае ўводзіць такія назвы? Добра было б, каб Ян Сычэўскі памог. Але не, яму гэта не патрэбнае, так як і сеймавае пасланне беларускаму народу. І так дзеецца з усім, што тычыцца спраў беларусаў. Зразумела, апрача фэстаў, на якіх прэзентуюцца некаторыя парламентарыі.

**М. К.**

# Беларускі трэці сектар

Трэці сектар — так называецца сфера грамадскай ініцыятыўнасці, у якой не звязаныя з урадам арганізацыі намагаюцца здзейсніць свае грамадскія, рэлігійныя або этычныя мэты. Падтрымоўваюць яны грамадзянскія ініцыятывы, дапамагаюць грамадзянам уключыцца ў публічнае жыццё. У дэмакратычным грамадстве трэці сектар выразна адметны ад астатніх двух: урадавага і прыватнага. Урадавы сектар абавязаны запэўніць дзяржаве бяспеку і забяспечыць сацыяльны дабрабыт грамадству, а прыватны, які складаюць прадпрыемствы і фірмы, намагаецца атрымаць прыбытак.

Сферы грамадскай ініцыятыўнасці ў Беларусі прысвечана спецыяльнае выданне „Беларусь. Трэці сектар"*, якога выдаўцы ставяць сабе за мэту даць замежным і міжнародным арганізацыям сумленную інфармацыю аб Беларусі і дзеючых там грамадскіх арганізацыях. На іх думку, адсутнасць такой інфармацыі з'яўляецца прычынай няведання праблем у Беларусі, што ў сваю чаргу вядзе да няўдачы многіх ініцыятыў і знеахвочання часткі замежных арганізацый да працы ў гэтай краіне.

У тэксце „Трэці сектар у Беларусі" рэдактар выдання Павел Казанэцкі праводзіць аналіз важнейшых з'яў у гэтай галіне. Аўтар заўважае, што ў Беларусі межы трэцяга сектара нярэзкія. Афіцыйна зарэгістраваныя ў якасці няўрадавых арганізацый у Беларусі (2600 суполак) не адпавядаюць крытэрыям трэцяга сектара, паколькі ў іх ліку знаходзяцца ўрадавыя (напрыклад, Беларускі патрыятычны саюз моладзі, поўнасцю фінансаваны і кантраляваны дзяржавай) ці постсавецкія арганізацыі (ветэранскія, колішні камсамол). Гэтыя апошнія, не жадаючы страціць штаты і іншыя прывілеі, сталіся бізнесовымі структурамі ў нейкай ступені апазіцыйнымі да існуючага ладу. Няўрадавыя арганізацыі ў Беларусі, спонсарствам якіх не зацікаўлены мясцовы бізнес, на практыцы прыгаворaны карыстацца падтрымкай дзяржавы або замежных крыніц. Гэта пасадзейнічала ўзнікненню асаблівай сферы няўрадавых арганізацый, створаных быццам бы па заказе замежных партнёраў. Заснавальнікамі некаторых арганізацый сталі людзі, якія ў прапанаваных замежнымі фондамі фінанасавых сродках убачылі лёгкі заробак, лепшы чым у бізнесе. Такія арганізацыі часта завуць у Беларусі „грантасосамі", а іх дзеячаў — „дзяцьмі капітана (або: капітала) Гранта". У канцы васьмідзесятых гадоў узнікла многа сапраўдных грамадскіх арганізацый, якія сталі заўважацца спонсарамі толькі каля 1995 г. Складанасці з вызначэннем межаў трэцяга сектара, канстатуе аўтар, вынікаюць з адной прычыны: Беларусь не з'яўляецца дэмакратычнай дзяржавай. Таксама сацыялагічныя даследаванні пацвердзілі, што натуральнаму працэсу развіцця няўрадавых арганізацый у Беларусі перашкаджае існуючы рэжым, які не трактуе іх як партнёраў пры вырашэнні разнастайных пытанняў лакальнага маштабу.

Згаданы аналітычны тэкст папаўняюць артыкулы беларускіх аўтараў. Алена Танкачова піша пра трэці сектар у святле сацыялагічных даследаванняў, Алена Ліпская — пра заканадаўства аб некамерцыйных арганізацыях, а Вінцук Вячорка і Пётра Садоўскі — аб прынцыпах тварэння і рэгістрацыі грамадскіх арганізацый. Кароткі агляд няўрадавых арганізацый дае Алесь Міхалевіч, Алесь Бяляцкі прадстаўляе сучасную гісторыю маладзёжных арганізацый, а Алег Дзярновіч набліжае чытачу праваабарончы рух у Беларусі. Апрача таго ў выданні даюцца агляды важнейшых няўрадавых арганізацый і іх бюлетэняў, а таксама адрасы членаў аб'яднання прадэмакратычных няўрадавых арганізацый і спіс незалежнага друку.

**Віталь Луба**

**Białoruś. Trzeci Sektor.* Wydanie specjalne. Redaktor wydania: Paweł Kazanecki. Warszawa — Mińsk 1998, s. 130.

Міхась Андрасюк

# Кароткая гісторыя Партыі кучаравых

### 4. Магіла

Біндзюк заўсёды быў інструктарам. Іншыя яго сябры ўзлазілі вышэй: ішлі ў кіраўнікі, у начальнікі, у дырэктары, каб там, засмакаваўшы ў бязмежнай прасторы, праваліцца ды апынуцца зноў у цеснай інструктарскай клетцы. А часам і яшчэ ніжэй.

Чалавечы арганізм кепска ўспрымае такія вандроўкі ўздоўж вертыкальнай лініі. Бунтуецца сэрца, страўнік азываецца непрыемным голасам, разбэшчваецца крывяны ціск, псіхіка падае ў дэструкцыю...

А вось Біндзюку не было прычыны хварэць. Ягоныя вандроўкі адбываліся на гарызантальных шляхах і калі цярпеў ад гэтага падарожжа нейкі орган, тады толькі і выключна — сарамлівае месца ніжэй спіны. І гэта зразумела. Іначай жа ж муляе крэсла інструктара аховы здароўя, іначай — інструктара скупкі малака, а яшчэ іначай — інструктара будаўніцтва. Біндзюкова спіна, як і блізкая гэтай спіне сваячка — добра знаёмыя ўсім інструктарскім крэслам у нашым горадзе.

Завінуўшы такі вось жыццёвы шлях дабрыў Біндзюк над магілу.

— Як гэта магчыма? — спытаеце. — Чалавек зрабіў жа ж усё, каб уцячы ад хваробы, а раптам апынуўся ў такім непрыемным становішчы?

А я скажу вам: прычыны ёсць. Праўда, да медыцыны яны ніякага дачынення не маюць, чыста гэта палітычныя прычыны, ды і магіла ж не такая, пра якую думаеце: копчык зямлі, уквечанае ўсё, з крыжыкам у галовах. Біндзюкова магіла — абложаная бетонам яма, зусім яшчэ парожняя, і калі б не навакольны краявід, можна было б лічыць яе звычайным, невялікім па памерах склепам на бульбу ці буракі.

— Тут вось будзем ляжаць. Месца прыгожае. Цэнтральная алейка, наўкол пушча, а паветра чыстае-чыстае... Ніякай серы, ніякіх двухвокісаў. Дыхай — на ўсе грудзі! — як актуальны інструктар аховы асяроддзя не мог Біндзюк абмінуць маўчаннем такі неабыякавы для сваёй будучыні факт.

— А суседзі? Не якія — барані Бог! — п'яніцы? — Біндзючыха не надта разбіралася ў складанай экалагічнай тэрміналогіі. У іерархіі неабходных для жыцця спраў добрую кампанію лічыла справай ці не найважнейшай.

— Суседзі — першы сорт. Як жа іначай. Па левы бок — Лапаевы, па правы — Сукачы, а ў галовах — начальнік Кукаліцкі ва ўласнай асобе.

Спадабалася Біндзючысе суседства. Тысяча пяцьсот злотых за такое месца — зусім разумная цана.

Глядзела на мужа з захапленнем, а ў думках хваліла яго за развážнасць, за прадпрымальнасць, за ўсё тое, што ў вялікім свеце завяршаецца адным словам: клас.

Прытуліўшыся да сябе, бы ў найлепшыя гады маладосці, прагульваліся спадарства Біндзюкі, наведвалі знаёмых, разглядалі актуальныя напрамкі гранітнай архітэктуры. Завандравалі амаль пад капліцу. Усё-такі нейкая сіла спыняла іх, клікала. Мімаходзь вярталіся на гэтае — яшчэ не сваё, а ўжо і нечужое месца. Асцярожна, каб не перасяліцца без пары на другі бок, заглядалі ў бетонную яму. Унізе, на гліністай мяжы паміж двума светамі, паблісквала жоўтым вокам калюжына.

— Але памятай, я буду зверху, — на думку, што давядзецца калі-небудзь класціся ў глінстую мазь, Біндзючысе зрабілася няёмка.

— Зверху то буду я, даражэнькая, — запярэчыў інструктар. — Не на тое чалавек стараўся ўсё жыццё, каб пасля смерці нейкія бабскія маслакі тапталі яго ў балота.

Апошняе не сказаў ён уголас, бо і навошта выклікаць ліхое, асабліва на парозе новага жыцця...

— Ой, не гневайся. Я ж жартавала. Яно вядома — хто першы, той знізу будзе. Лёс вырашыць.

— А прычым тут лёс? Я зверху, і так мае быць! І канец дыскусіі.

Інструктар заціўся. У такіх выпадках усякае лагічнае тлумачэнне — зусім лішняе, і жонка, ведаючы пра гэта, адступілася.

Калі б не тое месца, калі б іншае сцэнічнае афармленне, справа — магчыма — скончылася б нічым. Тут аднак, хто ведае — ці не апошняя нагода раз прынамсі паказаць сябе? І Біндзючыха паказала.

— Думай што хочаш, а я падысападам і так ляжаць не буду!

— Не будзеш?!

— Не. Твая віна — лягай знізу. А віна твая і тваіх гультайства. Нават найлепшыя твае калегі гаварылі: месца лянівых — тут!

— Калі ўжо дакладна, то не калегі, а тыя кучаравыя засранцы! Трымайся фактаў. Яны во будучыню нам рухтуюць! — Біндзюк кіўнуў на бетонны дол. — А ты памятай: усё магу сцярпець, а ілгунства — не!

Інструктар Біндзюк казаў праўду. З яго чалавечых слабасцяў менавіта ілгунства было яму чужое і зусім агіднае. Ён ніколі б і не падумаў, што жанчына, якой аддаў трыццаць год свайго жыцця, свядома разменецца з праўдай! Яма, на якую так цешыўся ў апошнія дні, здалася раптам чымсьці сумным і непатрэбным. Падсвядома здагадваўся, што жонка ўсё-такі астанецца пры сваім. Як жа тады класціся на ўсю вечнасць з кабетай, якая не табе верыць, а іншым — нейкім кучаравым, без гісторыі і без традыцыі?!

— Ну, тады шукай сабе асобнае месца! — не думаў нават, што калісьці давядзецца сказаць такія словы! Непрадказальнае бывае ж жыццё!

Была гэта апошняя гутарка паміж Біндзюкамі ў чатыры вочы. Далей размаўлялі з дапамогай суддзяў і адвакатаў, а перш за ўсё праклiналі Партыю кучаравых, якая варварскім спосабам разбурыла яшчэ адзін асноўны грамадскі твор.

*(працяг будзе)*

# Я за Гофмана

— Ты за каго, за ўкраінцаў, пэўна? — папытала мяне ў пачатку фільма Ежы Гофмана „Агнём і мячом" швагерка.

— За слабейшых, — адказала я дыпламатычна, хаця пазней выявілася, што не было такой патрэбы.

Паказаныя ў фільме ўкраінцы далёкія ад літаратурных, Сянкевічаўскіх узораў. Збунтаваныя казакі не выклікаюць пачуцця варожасці (з увагі на прычоску і інстынктыўную агрэсію) нават у скінаў. Наадварот, глядач разумее сэнс іх змагання за чалавечыя правы, за волю. Сам Хмяльніцкі паказаны як тактоўны палітык і дыпламат. У нацыянальным кантэксце найслабей выглядаюць татары, заўсёды на баку мацнейшага. Пры нагодзе варта адзначыць бліскучую ролю Данеля Альбрыхскага як хана Тугай-бея. Шкада толькі, што назначаная яму роля не разгарнула поўнасцю таленту ўражлівага на тып Сянкевічаўскага героя.

Пра Ізабелу Скарупка зручней гаварыць як пра аздобу фільма. Яе роля князёўны Галены Курцэвічанкі — статычная.

Найбольш уразіла мяне мастацкая крэацыя Русланы Пысанкі ў ролі вядзьмаркі Гарпыны, побач Д. Альбрыхскага найлепш зайграная роля ў фільме. Не разумею захаплення мільёнаў глядачак-паклонніц для ролі Богуна, якую выканаў Аляксандр Дамагараў. Замала тут дзікай шалёнасці, парыўнасці. Дарэчы, у фільме, як і ў рамане Сянкевіча, шмат эфектоўнай разні, забівання, агню. Аднак жахлівыя сцэны і мора крыві не пакідаюць вялікага ўражання, мабыць таму, што самі героі пасля крывавага занятку не губляюць добрага настрою, апетыту і ахвоты да кахання. Жахлівыя сцэны пераплятаюцца з узнёслым каханнем Галены і Скшатускага (якога пераканаўча прадставіў сучасны амант польскай сцэны Міхал Жаброўскі), маляўнічымі краявідамі ды ўкраінскай народнай музыкай, на жаль, у варыянце апрацаванага фальклору. Увесь фільм нагадвае вялікі рэкламны відэакліп.

Найбольшая цэннасць фільма ў тым, што Ежы Гофман паказаў сучаснае разуменне патрыятызму, якое не можа выяўляцца ў варожасці да іншай нацыі.

Для палякаў (і не толькі) гэта каштоўная ўвага. Тым больш, што фільм „Агнём і мячом", як ніколі, карыстаецца папулярнасцю шырокай публікі.

— Я за Гофмана, — адказала б зараз я на пытанне швагеркі.

**Ганна Кандрацюк**

# „Беларускі ранак" у Варшаве

У суботу 27 лютага ў Варшаўскім універсітэце адбыўся „Беларускі ранак", прысвечаны вынікам этнаграфічных даследаванняў, якія вялі ў наваколлі Начы на Гродзеншчыне студэнты этнаграфіі ВУ пад кіраўніцтвам д-р Анны Энгелькінг. „Ранак" быў такі цікавы, што зацягнуўся аж но за абед. Студэнты даследавалі, найлепш як патрапілі, нацыянальную свядомасць на беларуска-літоўска-польскім культурным памежжы — у розных аспектах: тутэйшасці, мовы, веры, нацыі. Слухаючы, часта эмацыйныя выказванні маладых студэнтаў, адчувалася іх заангажаванасць у праведзеную працу. Відаць, рабілі тое не толькі са студэнцкага абавязку, але з гарачым захапленнем тэмай. Дзевяць дакладаў надалі навуковаму семінару зусім прафесійны ўзровень (вядома, адкідаючы нявопытнасць у фармулёўцы навуковых абагульненняў і метадалагічны недахопы). Адно пэўнае: студэнты, ведаючь „нацкую" рэчаіснасць і ведаюць, што акрэсленні „тутэйшы", „паляк", „беларус", „літвін" маюць розныя значэнні. Я пераканана, што могуць быць яны экспертамі прынамсі „па Начы" для шматлікіх польскіх журналістаў, якія цікавяцца палякамі ў Беларусі. Зрэшты, каб ведаць краіну ці пра яе гаварыць, трэба ў ёй пабываць.

Зала была запоўнена да апошняга месца. І сапраўды цяжка было дыскутаваць з выказваннямі „нацкіх" даследчыкаў. У Начы — я ж не была. Мучыла мяне толькі сумленне, маральны бок такіх даследаванняў. Але аказалася, што ў групе апынуўся таксама такі студэнт, які думаў падобна як я, і таму даследаваў сваіх сяброў — як даследчыкаў. Свайму выступленню даў ён загаловак „Этнаграфаграфія". Пакідала я залу з раздвоенымі думкамі пра „даследчых трусоў" і наватарскія выказванні студэнтаў тыпу: „aksjomat tutejszości", „tożsamość na zasadzie wspólnoty wyobrażonej.

**Лена Глагоўская**

# Вясна ў Варшаве

Да мастацтва Лявона Тарасэвіча, як і да асобы самога мастака цяжка мець абыякавыя адносіны. Асабліва цяжка дыстанцыю захаваць беларускаму асяроддзю і часткі польскамоўных журналістаў з глухой правінцыі, якія або з мастака робяць штукара, або проста яго не любяць, не разглядаючы ўжо нават узроўню адбірання самога мастацтва, якое ў гэтым усім хіба найважнейшае. Вялікая рэтраспектыўная выстаўка мастацтва Лявона Тарасэвіча адкрылася ў прэстыжнай варшаўскай галерэі „Zachęta". Вернісаж, які адбыўся 5 сакавіка склікаў у галерэю польскае мастацкае асяроддзе, сяброў мастака, яго вучняў (Тарасэвіч мае прафесуру ў варшаўскай Акадэміі мастацтва), а таксама мноства журналістаў.

Яшчэ на мармуровых сходах у фае галерэі яе гаспадыня Анда Ротэнберг сказала, што выстава мастацтва Тарасэвіча не з'яўляецца выставай для спецыялістаў, гэтая выстава чакае шырокай публікі, таму што агляданне палотнаў і кампазіцый створаных мастаком, гэта вялікая прыемнасць. На выставу прыехаў таксама вялікі сябра мастака — літаратар Сакрат Яновіч. „Феномен Тарасэвіча заключаецца ў яго натуральнасці, у тым, што ён вырас са сваёй зямлі, але не страціў каранёў. У яго гэты працэс адбыўся даволі інстынктыўна, але ў выдатных мастакоў усё пачынаецца з інстынкту. Беларускасць Лёніка не ёсць яго фанабэрыяй. Гэта ўмова яго вялікасці", — сказаў Сакрат Яновіч.

Жывапіс Тарасэвіча гэта мастацтва радасці і пошуку каранёў чалавецтва. Гледзячы на палотны часткі людзей прыпамінаюцца краявіды Беласточчыны. Тарасэвіч адказаў на тое: „Беласточчына стварыла мяне як мастака і ў кожным палатне знаходзіцца частка яе, але перш за ўсё кожны хоча пабачыць тое, што яму найбліжэйшае". Вядомы польскі мастак, лаўрэат сёлетняга пластычнага пашпарта штотыднёвіка „Палітыка" Яраслаў Мадзалеўскі прызнаў жывапіс Тарасэвіча вельмі актуальным, а сам мастак, з чым згадзіліся прысутныя польскія крытыкі мастацтва, безумоўна знаходзіцца ў першай пяцёрцы найлепшых польскіх мастакоў.

Як пацвярджае жыццё, поспех мае многа бацькоў — Тарасэвіча як свайго мастака прызнае некалькі нацый.

— Ці лічыш гэта плюсам ці не, калі частка людзей думае пра цябе як пра беларускага мастака часцей як пра мастака ўвогуле? — пытаю.

— Каму гэта плюс няхай кожны сам дадумаецца. Я — беларус, але і адначасова мастак. Беларускае асяроддзе адчувае мяне як мастака беларускага, польскае — як мастака польскага, таму што жыву ў Польшчы і дзейнічаю з польскімі мастакамі. Некаторыя адчуваюць мяне як мастака шведскага. Нацыянальнасць у перспектыве мастацтва гэта рэч другарадная. Найважнейшае для мяне, каб быць мастаком, хаця вельмі важная нацыя, з якой так многа шарпаемся ў гэтым жыцці", — адказаў Тарасэвіч.

Анэта Прасэл — камісар выставы Тарасэвіча сказала, што менавіта 5 сакавіка ў Варшаву прыйшла вясна, якая дзякуючы Тарасэвічу астанецца да паловы красавіка ў „Zachęcie". Настаўнікам беллiцэяў раю выкарыстаць перыяд веснавых экскурсій для развіцця эстэтычных пачуццяў выхаванцаў і на адзін дзень з'ездзіць з імі ў Варшаву.

**Тамаш Саевіч**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Віктар ШНІП

### Воўк і магнітафон

Воўк купіў магнітафон
І цяпер не злосны ён.
Ён не вые ды й не спіць,
У кустах усё сядзіць.
Больш за зайцам не цікуе —
Свой магнітафон пільнуе.

### Шэранькі каток

Па сцяжынцы скок ды скок
Скача шэранькі каток.
Дзеці выпусцілі з хаты
І ў катка сягоння свята.
І забыўся ён пра гора —
Не пускалі ў хату ўчора.

### Скорагаворкі

У кашы мурашы
З шэранькаю мышкай
Шаршацелі шышкай:
— Шы-шы-шы, шы-шы-шы...
* * *
Бабёр другой не меў марокі,
Чым у сарокі браць урокі,
Як добрыя рабіць драбіны
З вярбіны шэрай і рабіны.

## Дзяўчаты любяць матэматыку, хлопцы — фізкультуру




*III „д” з настаўніцай беларускай мовы Валянцінай Бужынскай.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

У час чарговай сустрэчы з чытачамі нашай старонкі Зорка пазнаёмілася з сімпатычнымі вучнямі III „д” класа, што ў бельскай „тройцы”. Спатканне наладзіла настаўніца беларускай мовы **Валянціна Бужынская.**

— У III „д” 26 вучняў, — расказвае **Кася Барута** — 10 дзяўчат і 16 хлопцаў. Нашы хлопцы цікавяцца фізкультурай, дзяўчаты любяць урокі матэматыкі, музыкі, беларускай і польскай мовы. Выхавацелькай класа з'яўляецца **Мар'я Фалькоўская.**

— Усе дзеткі старанна вывучаюць беларускую мову, — сказала Валянціна Бужынская.

— Многія з іх прымалі ўдзел у дэкламатарскіх конкурсах беларускай паэзіі і прозы. Магда Пахвіцэвіч апынулася на цэнтральным этапе ў Нараўцы, дзе заваявала III месца. Дзяўчынка прадэкламавала верш Рыгора Барадуліна пад загалоўкам „Як яноты вучылі ноты” (Магда напісала пра свае ўражанні ў „Зорку”, інфармацыя друкавалася ў 10 н-ры за гэты год). Пра дэкламатарскі конкурс і сваіх сяброў напісала таксама Марта Пахвіцэвіч з III „д”, якая допіс разам са здымкам усіх дэкламатараў і выдатнікаў друкавалі мы ў „Ніве” н-р 11. Мае новыя сябры паабяцалі і далей пісаць у „Зорку”. Нарэшце, традыцыйна, узнік памятны здымак. Да наступнай сустрэчы, сябры!

**Зорка**

## Гітавая імпрэза

20 лютага г.г. у Пачатковай школе ў Аўгустове адбыліся запусты. Традыцыйна ўжо *запускаліся* там удзельнікі тэатральных груп „Ягуштова” і „Антракт” і іх кіраўнікі Альжбета і Дарафей Фіёнікі. Далучыліся таксама настаўнікі ды многія госці.

Мерапрыемства пачалося ў 17 гадзін. Як першыя выступілі акцёры „Антракта” са сцэнкай „Калыханкі для Касі”. Пасля на сцэну выйшла тэатральная група „Ягуштова” з пастаноўкай „Жытнёвы каласок”.

Спецыяльнымі гасцямі мерапрыемства былі мясцовы бацюшка Яўген Хадакоўскі з сям'ёй і дырэктар бельскага беларускага ліцэя Зінаіда Навіцкая.

Пасля тэатра была дыскатэка, якая дзякуючы спадару Шульцу з БДК, які ведае што значыць музыка, была Куль!

**Жанэта Роля**

Пра нас пісалі ў „ЛіМе”

## „Зоркі” збіраюць сяброў

Пад Беластокам адбыліся чарговыя, шаснаццатыя па ліку, літаратурна-тэатральныя сустрэчы творчай моладзі „Зоркі”, арганізаваны журналісткай Ганнай Кандрацюк пры падтрымцы тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва”, Міністэрства культуры і мастацтва РП, польскага Фонду падтрымкі дзяцей і моладзі.

Творчыя семінары былі пабудаваны па сістэме не толькі жывых непасрэдных кантактаў удзельнікаў і абмену вопытам у галінах журналістыкі, паэзіі і тэатра, але і ў рэалізацыі канкрэтных відовочных перформенсаў, якія аб'ядноўвалі творчыя высілкі маладых літаратараў і артыстаў у пэўныя праекты, бо, як вядома, творчыя кантакты мусяць заканчвацца канкрэтнай працай.

Добрай традыцыяй стала запрашэнне на гэтую сустрэчу гасцей з замежжа, што ўздымае ўзровень гэтага маладзёжнага форуму ад рэгіянальнай падзеі да міжнароднага маштабу, і ў будучым, магчыма, сустрэчы займеюць агульнаеўрапейскую папулярнасць. Беларусь прадстаўляў малады рэжысёр, акцёр і паэт Сяргей Патаранскі, які паказаў публіцы фантазію па санетах Шэкспіра.

**Ігнат Маланкаў**

*Літаратура і Мастацтва н-р 7/3987, 12.02.1999 г., Мінск*

## Польска-беларуская крыжаванка № 13

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| ▼ | Jad / Drapacz ▼ | Drzewo ▼ | Dźwignia ▼ | [кніга] | Kucharz ▼ | ▼ | Data / Mapa ▼ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Druk ► | | | | | | |
| Uśpienie, drzemka ► | | | | | | | |
| Recz ► | | | | Wrzątek ► / Co? ▼ | | | |
| Uwaga ► | | | | | | [кніга] | |
| Czajka ► | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 9:** Одум, зубр, лад, гіт, Іра, лыч, Ігар, Буг, бічорт, куліг, мара, дар.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі: **Анна Каліноўская** з Махнатага, **Юліта Апольская** і **Святлана Федарчук** з ПШ у Нарве, **Паўліна Савіцкая** з Гарадка, **Івона Гаўрылюк** з Кленік, **Бэата Парфянюк** з Хітрай, **Анджэліка Сельвясюк** і **Агнешка Селеванюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

**Увага конкурс!**

# Артыкул квартала

Рэдакцыя „Зоркі" аб'яўляе конкурс на артыкул квартала, які друкаваўся на нашых старонках ад 1 студзеня па 15 сакавіка г.г.

З апублікаваных 36 допісаў вылучаем артыкулы багатыя зместам і спелыя па форме.

**I. Нашы прапановы:**

1. **Жыццё мяняецца** — *інтэрв'ю пра святкаванне Каляд*, „Ніва" н-р 1 ад 3.01.1999 г., аўтары: **Жанэта Роля** і **Кася Лукашук**.
2. **Слухаю сваіх сяброў** — *інтэрв'ю з Юркам Ляшчынскім, журналістам Радыё Беласток*, „Ніва" н-р 3 ад 17.01.1999 г., аўтар: **Юрка Буйнюк.**
3. **Тры дні ў Белавежскай пушчы** — *прэсавая інфармацыя*, „Ніва" н-р 4 ад 24.01.1999 г., аўтар: **Наталля Бабулевіч.**
4. **Пульс першабытнай пушчы** — *прэсавая інфармацыя*, „Ніва" н-р 5 ад 31.01.1999 г., аўтар: **Анна Аўсянюк.**
5. **І ў яго ёсць гнілое яблыка** — *інфармацыя пра сустрэчу з Янам Чыквіным*, „Ніва" н-р 6 ад 7.02.1999 г., аўтар: **Анна Садоўская**.
6. **Умееш лічыць — разлічвай на сябе** — *інтэрв'ю з Міхалам Мінцэвічам*, „Ніва" н-р 7 ад 14.02.1999 г., аўтар: **Сільвія Шыманская**.
7. **Абстрыжаная беларускасць** — *фельетон пра дарастанне і буру гармонаў*, „Ніва" н-р 8 ад 21.02.1999 г., аўтары: **Агнешка Галімская** і **Аня Садоўская**.
8. **„...Пачынаецца ўсё з любві..."** — *інфармацыя пра Дзень закаханых*, „Ніва" н-р 9 ад 28.02.1999 г., аўтар: **Мажэна Жменька.**
9. **Астануся мастаком** — *фельетон на тэму „Адкуль бярэцца мастацтва"*, „Ніва" н-р 9 ад 28.02.1999 г., аўтар: **Міхась Сцепанюк.**

**II. Задача чытача:**

З дзевяці прапаноў-назначэнняў трэба выбраць адзін артыкул.

Адказ з прозвішчам аўтара(-аў) і загалоўкам артыкула просім даслаць у рэдакцыю „Зоркі" **да 15 красавіка г.г.**

Сярод удзельнікаў конкурсу разыграем тры ўзнагароды:

— гадавую падпіску на „Ніву",

— польска-беларускі слоўнік,

— альбом мастацтва пра горад Бельск-Падляшскі.

Узрост удзельнікаў конкурсу — неабмежаваны.

**III. Узнагарода пераможцу**

Пераможцам стане аўтар(-ры), які набярэ найбольш галасоў чытачоў. Яму „Зорка" падрыхтавала рэчавую ўзнагароду за 100 злотых.

Дапускаецца таксама ініцыятыва прыватных асоб, якія самі могуць узнагародзіць любімых аўтараў. Узнагароду „Зоркі" ў выглядзе фотарэпартажу атрымаюць таксама аднакласнікі пераможцы.

**Зорка**



*Дэкламатары з IV „д" з настаўнікам беларускай мовы Яраславам Падольцам.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Любчыны прыгоды

***(амаль дзённік)***

**На каго Любка падобная**

На татку! На каго ж яшчэ! І валасанькі светленькія, і вочкі блакітныя, і носік бульбінкай ды кірпаценькі трохі — зусім, як у таткі — што вам яшчэ!

А прыглядзеўся нехта — дык броўкі — як у матулі — да таго светлыя, што і не відаць іх амаль. Толькі калі сонейка на іх збоку пасвеціць — успыхнуць яны, і відно робіцца, якія яны прыгожыя — дужачкай выгінаюцца. Як падрасце Любка — трымайцеся, хлопцы: не аднаму з вас галаву ўскруціць! — зусім, як матка!

Папазіраў гэтак ды пытае:

— А чыя ж ты будзеш, дачушка?

— Мамчына! — бо на каленях у яе сядзела. А потым спахапілася, зірк на татку — ці не пакрыўдзіўся?! — і галасна так ды рашуча:

— Не, не! Татава! Татава!

І ажно свеціцца ўся, што не змяніла татку.

Ён ёй таксама — што б ні было! — чысцюткую праўдачку кажа: каму ж болей!

**Як Любка татавы казкі слухала**

— Раскажы казку! — просіць перад сном Любачка.

Тыя, каторыя ў кніжцы, матуля чытае. А тыя, што татка расказвае, вядома, цікавейшыя.

Татка прысядзе побач, абапрэцца рукой на ложак — схіліцца над дачушкай, каб яна ўсё чула, ды каб матулі не перашкаджаць — у яе таксама адказная праца, толькі жаночая, — і паціхеньку пачынае:

— Жыў аднойчы...

Любка прыстроіцца зручней, заціхне, а потым асцярожна — каб казку не перапыніць — сваю далоньку птушыную — лёгкую і мяккенькую — да татавай рукі прыкладае — ледзь дакранецца спачатку — мо заззлуе бацька?! — але ж ён таксама па Любцы ссумаваўся — цалюткі дзень дачушку не бачыў! — і замрэ — не зварухнецца!

А Любка, дазвол ягоны далонькай адчуўшы, ужо смела, як сваю, тату руку абшчэпіць і — шчыруюць абое!

Ад далонькі Любчынай — давер і пяшчота, а ад татавай рукі загарэлай — цяпло сонечнае, што на працы за дзень назбіраў.

І не трэба ім аніякай іншай казкі: гэтая — самая чароўная!

***(працяг будзе)***

**Анатоль Кірвель**



*Вучні з ПШ у Крывой святкуюць дзень вясны.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Добры дзень, „Зорка"!

Пішу я Табе першы раз і думаю, што не апошні. Нядаўна я была ў Кляшчэлях на конкурсе „Сцэнічнае слова". Там пабачыла я многа дзяцей з Сустрэч „Зоркі" і вельмі ўцешылася. Падумала, што добра было б спаткацца з імі яшчэ раз на Сустрэчах.

Высылаю Табе, „Зорка", два свае вершы. Маю надзею, што буду пісаць Табе часцей.

**Анэта Галімская**

## Маё жыццё

Колькі ў мяне гадоў,
Столькі я пережыла.
Колькі ў мяне слоў,
Столькі сказала я.
Колькі пабачыла дарог,
Столькі я перайшла.
Не знаю я,
калі скончыцца
дарога майго жыцця.

**Анэта Галімская**

# Добрае прыносіць радасць

Даўно-даўно таму жыў скупы стары. Меў ён прыгожую і вялікую хату. Быў багаты і адначасова скупы ды адчуваў сябе самотным. Стары жыў непадалёк лесу. Аднойчы зімовай ноччу ён не мог заснуць і вырашыў пахадзіць па лесе. Апрануў доўгае, чорнае паліто, капялюш і запусціўся ў лес. У глыбіні бору пачуў плач дзіцяці. Спыніўся і пачаў прыслухоўвацца адкуль даходзіць голас. Улавіўшы след пайшоў за голасам. Калі быў на месцы ўбачыў нешта страшнае, прывід, які цягнуў за сабой цяжкі шар і выў. Стары спалохаўся і кінуўся ўцякаць. Бегучы зачапіўся і ўпаў у вялікую яму. Калі апрытомнеў пабачыў старую, непрыгожую хатку. Стары пастукаў у дзверы. Пасля хвіліны дзверы адчыніліся і ў іх паказалася старая і бедная пані, а за ёю чацвёра дзяцей. Стары здзівіўся, што дзеці жывуць у такой цеснай і дзіравай хатцы.

— Як мне вярнуцца ў маю вілу? — запытаў жанчыну.

Старая паясніла яму, што жывуць тут самыя бедныя, хворыя і галодныя людзі. Скупому сэрца сціснулася ад болю. Ён адышоў ад гэтай хаткі. Па дарозе ўбачыў з'яву, якая жахліва смялялася. Скупы зноў спалохаўся і пачаў уцякаць. Бегучы зачапіўся і ўпаў у яму. Калі прыйшоў у сябе, пачаў думаць пра здарэнне. Не быў упэўнены ці гэта была сонная мара, ці ява. На наступны дзень ён зноў пайшоў у лес. У канцы гушчэчы ён убачыў тое ж самае, што і ноччу. Хуткім крокам вярнуўся ў свой дом ды ўзяў мяшок грошай. Прыйшоўшы на страшнае месца раздаў свае грошы бедным. Бедныя людзі вельмі ўсцешыліся ўчынкам старога. У паваротнай дарозе дагналі яго дзеці.

— Дзякуем вам, добры дзядуля, — сказалі малыя і падарылі яму букет кветак.

Стары ўзрушыўся. Ён зразумеў, што добрыя ўчынкі прыносяць многа радасці.

**Марцін Аніщчук,**
**кл. VII ПШ у Новым Корніне**

# Музыка ў Нарве


У суправаджэнні калектыву „Пронару” спявае Дамініка Цімашук.

Калі сем гадоў таму назад Ежы Томзік заснаваў па просьбе дырэктара Сяргея Мартынюка дзіцячы мастацкі калектыў пры фабрыцы „Пронар” у Нарве, святліца была знішчана, развалена сцэна, каблі былі пашырываныя. Усё прыбралі, адрамантавалі, купілі апаратуру, інструменты.

Адразу было шмат ахвотных спяваць. Дзеці прыйшлі з падставовай школы. У калектыў ахвотна прымалі дзяцей работнікаў фабрыкі, але іх у калектыве ніхто не вылучаў. Гэта была забава для ўсіх дзяцей з Нарвы, і лозунг „Усе дзеці — нашы” тут рэалізаваўся ад пачатку і рэалізуецца да сёння.

Музычны кіраўнік калектыву Ежы Томзік (без трох экзаменаў — лекар) гаворыць, што не шкадуе, што прысвяціў сваё жыццё музыцы. „Музыка для мяне гэта большы наркотык, чым марфін”, — сказаў ён. У Беластоку ён вядзе прыватную студыю песні, а ў „Пронары” вось дзіцячы мастацкі калектыў, якому прысвячае шмат сваёй энергіі і натхнення.

Заняткі з дзецьмі вядуцца ў Нарве два разы ў тыдзень, расказвае мне Ежы Томзік, але, калі трэба, мы сустракаемся не толькі ў сераду і суботу, а ў залежнасці ад патрэб і часцей.

На сёлетнім Фестывалі беларускай песні ў Беластоку салістка калектыву Дамініка Цімашук у суправаджэнні дзіцячага калектыву цудоўна заспявала беларускую песню „Адбалела, прайшло” і заняла другое месца ў катэгорыі сучаснай песні. Дамініка сёлета здае матуру. Гэта суперздольная дзяўчына, гаворыць Ежы Томзік, шкада, што спявае ў калектыве ўсяго чатыры месяцы, бо магла б скарыстаць больш.

А два гады таму Агнешка Дамброўская з гэтага калектыву атрымала на Фестывалі кубак прэм'ера В. Цімашэвіча.

Які рэпертуар прадстаўляе калектыў? Якое ў ім месца беларускай песні? Мы падбіраем рэпертуар, кажа Ежы Томзік, у залежнасці ад патрэб і замілаванняў моладзі. Рэпертуар мы не накідаем, але такая імпрэза, як Фестываль беларускай песні ў Беластоку, нас забавязвае. Ну, і, вядома, я мушу браць пад увагу варунак працадаўцы і вымаганні асяроддзя. Так што беларуская песня займае ў нас асобае месца. Дзеці спяваюць таксама праваслаўныя калядкі, але ў нашым рэпертуары ёсць і польскія, нямецкія, італьянскія, англійскія песні. Калі трэба, мы просім таксама дапамогі ў кансультантаў.

Дзе выступаюць дзеці, якія спяваюць у калектыве пры фабрыцы „Пронар”? Найчасцей — у сваім асяроддзі, на розных урачыстасцях. Аднак жа спявалі і ў Таліне, і ў Нарве, і ў Дынабургу, і ў Рызе, калі дзеці былі на экскурсіі, якую арганізаваў ім дырэктар Сяргей Мартынюк.

Наогул умовы тут, як мала дзе, сцвярджае Ежы Томзік. У святліцы „Пронара” дзецям добра, эстрадная апаратура высокага класа. Можна было б выступаць значна больш.

Стаўлю пытанне рубам: ці задаволены музычны кіраўнік калектыву сваёй працай? Вельмі, адказвае мне ён. Хаця... перажываю, што ў апошні час адышло шмат дзяцей. Бацькі не заўсёды патрапяць зразумець, якія дабрадзействы дае ім „Пронар”. Ну, што гэтыя дзеці, апрача школы і тэлевізара, там маюць? „Пронар” мае большыя магчымасці, чым не адзін дом культуры. Прынамсі мільярд старых злотых ён ужо выдаў на гэты калектыў. Не ведаю, ці ёсць у Польшчы другі такі мецэнат.

А ці ведае Ежы Томзік беларускую мову? Ну, бадай, за сем гадоў прабывання ў гэтым асяроддзі можна было навучыцца, усміхаецца ён.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Экалогія ў гміне

Ахова навакольнага асяроддзя стала сёння важным заданнем чалавека. Напрыканцы XX стагоддзя экалогія прыйшла ў вёску.

У мінулым годзе Гмінная ўправа ў Нараўцы пабудавала на полі паміж Гушчэвінай і Альхоўкай вялікую звалку смецця і непатрэбных адпадкаў. Выдадзеная ўжо адпаведная інструкцыя для жыхароў гміны. Паводле гэтай інструкцыі кожная вёска атрымае пластмасавыя мяшкі для смецця і адпадкаў. Мяшкі будуць блакітнага, зялёнага і чорнага колераў. Блакітныя мяшкі прызначаны для рознага роду банак з-пад напояў. Зялёныя — будуць напаўняцца чыстымі бутэлькамі з-пад рознага роду напояў. У мяшкі чорнага колеру вяскоўцы ўкінуць непатрэбную паперу — адным словам макулатуру. Напоўненыя і выстаўленыя пры вуліцы мяшкі забярэ гмінны транспарт і адвязе на звалку.

Акцыя будзе праводзіцца раз у месяц. Вызначаны ўжо дні для паасобных мясцовасцей. Усё гэта робіцца дзеля таго, каб чысцейшымі сталі наш лес, вада, паветра, наша зямля.

**(міква)**

# Паэтычны ларок

## Балада

Быў народ, які звыкся і зжыўся
ўжо з рабствам,
З беззаконнем, бяздушшам,
нахабствам,
Ды ўсё трызніў па больш яшчэ
моцнай руцэ.
Жыў народ, бы тапелец у горкай рацэ.

Уладыка Усявышні — нябесны
наш Бог —
На такі вось кашмар узірацца не мог
І рашыў шматпакутнаму гора-народу
Даравць Незалежнасць усё ж
ды Свабоду.

Дараваў у прыдатак яшчэ й талісман,
Каб ніколі нікому не здаўся на зман
(Гэта значыць, пры гэтым паслаў
атамана,
Каб народ надалей абярог ад дурману).

Не хапіла, аднак жа, народу развагі
Ды да Божае ласкі належнай павагі.
Для ўсур'ёз ап'янеўшага
рабствам народа
Недаступнаю сталася Фея-Свабода!

**Алесь Ляскоўскі** *(Сугакі, Беларусь)*

## Сумуе наш Коля

У летнюю спёку ці ў гадзіну зімы,
Ці вецер шуміць, ці дождж праліўны,
Заўсёды я хачу свае вершы складаць.
Хтось можа пачне іх калісь друкаваць?..
Калі адыду я ў вечну дарогу,
У душы ў кагось будзе біцца трывога
І можа тады стануць штось разважаць,
Каб Колевы вершы пачаць выдаваць?..
Я слоў не пачую, не буду ніц знаць,
А буду спакойна ў зямельцы ляжаць.
І можа і ўнуку затрапечацца сэрца,
Старанне маё камусь успамянецца?..
Тады будуць людзі мяне ўспамінаць:
„Пісаў, а цяпер пайшоў аддыхаць...”
Забудуць пра Колю, што калісь ён быў,
Што нашую „Ніву” так моцна любіў,
За роднае слова так шчыра змагаўся,
Нікому ніяк сам ён не паддаўся?..
Прапаў наш „Парнасік”, маленькая слава,
А нашая „Ніва” сумнейшаю стала.
Як мне памяняці няшчасную долю,
Не вершы пісаць, а хоць аб фальклоры?..

**Мікалай Лук'янюк** *(Бялкі)*

## Подых вясны

Яшчэ ўсюды многа снегу,
а як сонейка прыгрэе,
растае ён, асядае...
Груда на палях чарнее.
Подых вясны вельмі добра
усе птушкі адчуваюць:
весялей яны шчабечуць
некаторыя спяваць.
Коцік наш зусім змяніўся:
яму ў хаце не сядзіцца,
ён не грэецца ля печкі,
йдзе на сонейку пагрэцца.
Дзетак не ўтрымаеш у хаце —
на дварэ ўжо пацяплела,
яны бегаюць, смяюцца,
іх жыццё павесялела.
І дарослыя, і дзеці
подых вясны ачуваюць.
Надакучыла зіма ім,
прыбыцця вясны чакаюць!

**Марыя Манаховіч** *(Аўгустова)*

## Плач душы

Беластоцкі, беларускі край мой родны.
Ад вякоў справечных
Ты заўсёды родным быў.
Зацярпеў Ты ад усходу,
Зацярпеў Ты і з заходу
І пакутуеш далей...
Ніколі ты не хацеў біцца
І сварыцца за мяжу.
Як хацелі, так дзялілі,
Як хацелі, так пісалі,
А ты паклоны адбіваў.

Божа Усемагутны,
За што ты нас пакараў?
Замірае наша вёска
І канае наша мова,
А што будзя далей?
Душыць брыда нашы душы.
У Беларусі — так там цяжка,
Дзяруць душы жыўцом,
Забіваюць усё роднае,
Калі ідзем у Новы Свет.

**Уладзімір Зарэцкі** *(Зубры)*

## Рэклама: „Розніца”

***Асацыяцыі***

Стаіць малаток
на драўлянай ашліфаванай
ручцы. Самотны. Думае:
Я ёсць мудры молат,
маю гостры носік
і патыліца мая моцная.
Але, на жаль, нама кавадла
каб кляпаць (медзякі),
штось або кагось...

Калі будзе так стаяць
без працы,
ці не знойдзецца кавадла,
каб ударыць той молат?
Або маленькая бабка з касой,
каб урэзаць галоўку
цёмнаму малатку?
Ручку спаліць, а галоўку
ў возера махнуць?
**Розніца** ёсць
паміж малатком і кавадлам,
бо сам молат можа
быць толькі мала-ток;
„малы толк”.
Калі яго не возьме ў рукі
каваль і не ўдарыць
у гарачае жалеза.

Кавалём ёсць наш лёс.
І калі Мы
не возьмем яго ў рукі,
будзе з нас „малы толк”.

**Зіна Лукша-Кавалевіч** *(Беласток)*

## Як ажаніцца

Хлопцу ажаніцца — гэта не прысніцца. Важная справа — каб было шчасце ў доме і Божая слава. І замуж выйсці дзяўчыне — у добры дом як і ў гміну. Каб муж быў людскі заўсёды і не скакаў у „прыгоды”...

Калі яна паходзіць з беднага дома, што бацькоўская хата пакрыта саломай, хай дзяўчына на багатага хлопца не ляціць! Бо можа быць расчараванне і цяжка забаліць. Хай багаты шукае такую яе сам, бо бедная ў яго будзе за смецце і хлам, і ад свёкраў будзе меці толькі „дацінанні”; ведаем мы гісторыі ў такім выданні. На жаль, дзяўчаты хочуць хлопцаў толькі багатых, ды часта лайдакоў і рагатых. Іншыя, хоць абое бедныя, але пажаніліся з вялікай любові і з Богам памірыліся. Бо найбольшае багацце з часам прападзе, да Неба ніколі грэшніка не давядзе.

**Мікалай Панфілюк** *(Дубічы-Царкоўныя)*

# Рэформы за кошт найслабейшых



На ўскраіне Белавежы, непадалёк пушчы, знаходзіцца прыгожы будынак Дома грамадскай апекі „Ракітнік".

Першыя жыхары прыйшлі сюды яшчэ ў верасні 1989 года і былі гэта пенсіянеры. Пазней прыходзілі працягла хворыя асобы, якія патрабавалі пастаяннага нагляду.

— Жыве ў нас 71 жыхар, як мы іх называем. 70% гэта асобы, якія самастойна не могуць хадзіць. Астатнія хаця і ходзяць, але таксама патрабуюць нагляду з прычыны псіхічных хвароб, — кажа дырэктар Дома Мікола Галёнка.

**Камфартабельныя ўмовы**

У трохпавярховым будынку знаходзіцца некалькі клубаў, у якіх можна паглядзець тэлевізар, відэакасеты, паслухаць радыё, пачытаць, сустрэцца і паразмаўляць. Ёсць тут сваё кафэ, бібліятэка, сталовая, пральня і найважнейшае — рэабілітацыйныя кабінеты, абсталяваныя добрай апаратурай. У залах для рэабілітацыйных заняткаў жыхары малююць, рэзьбяць і выконваюць іншыя цікавыя працы. У 2-, 3-, і 4-месных пакоях мужчыны і жанчыны сустракаюць нас вельмі ветліва, так як сваіх гасцей. Ад санітарных работнікаў, якія тут працуюць, патрабаванні асаблівыя. Асобы, якія пасля ампутацыі ног ці па прычыне іншых хвароб на ўсё жыццё прыкаваны да пасцелі або каляскі патрабуюць асаблівай цярплівасці, ветлівасці і зычлівасці.

**Клапатлівыя рэформы**

— Адміністрацыйная рэформа і змены ў ахове здароўя тычацца таксама і нашага Дома, — дырэктар Мікола Галёнка пачынае расказваць пра свае клопаты. — Было ў нас трое лекараў (тэрапеўт, рэабілітант і псіхіятр). Цяпер з ніякім доктарам не можам падпісаць дамоўленасці, бо ў нас няма яшчэ сямейных лекараў і нашы жыхары застаюцца без медыцынскай апекі. Тых, якія ходзяць, возім у амбулаторыю ў Белавежу, а да ляжачых трэба прывозіць лекараў. Памянялася таксама і фінансаванне лякарстваў. Да гэтай пары ўсе медыкаменты выдаваліся бясплатна, а цяпер дармовыя толькі падставовыя лякарствы. Трэба яшчэ звярнуцца да грамадскай апекі ў паасобных гмінах, можа яны будуць вяртаць грошы за лякарствы. Ёсць жа ў нас жыхары, якія карыстаюцца дарагімі медыкаментамі, а скуль на гэта ім узяць грошы?

**Няясная будучыня**

Ад 1 студзеня 1999 года Дом „Ракітнік", які раней фінансаваўся дзяржаўным бюджэтам, перайшоў у распараджэнне павета і фінансаваны будзе самаўрадам.

— Памеры датацыі залежалі ад колькасці пацыентаў. Дадаткова атрымлівалі мы сродкі на рамонты і інвестыцыі. Наш бюджэт папаўняўся таксама сродкамі інвалідскіх фондаў, — паясняе дырэктар Мікола Галёнка. — Ад 2001 года фінансаваны будзем паветам, а да гэтага часу будзем карыстацца датацыямі. За кожных 10 тысяч жыхароў павета стараста атрымае грошы на 20 пацыентаў такіх дамоў як наш. У выпадку Гайнаўскага павета абазначае гэта сродкі на 110 асоб. Аднак датацыі пойдуць ва ўсе дамы грамадскай апекі, дзе жывуць хворыя з Гайнаўшчыны, напэўна яшчэ ў Харошчу, Сямятычы ці Угова каля Лапаў. Можа тады не хапіць сродкаў для нашых 57 пацыентаў з Гайнаўскага павета. Не ведаем таксама, ці рэгулярна атрымліваць будзем грошы на 14 нашых пацыентаў з іншых паветаў.

У Доме грамадскай апекі „Ракітнік" вядомай асобай з'яўляецца спадарыня Валянціна Ружальскі, ураджэнка Гайнаўшчыны, якая жыве ў ЗША. Купіла яна для Дома тэлевізары, халадзільнік, спецыяльны ложак. Пастаянна дасылае вопратку і ласункі.

— Аналізуючы праект сёлетняга бюджэту бачу, што грошай будзе малавата і такіх спонсараў як спадарыня Ружальскі трэба нам больш, — кажа дырэктар Галёнка. — Спадзяюся аднак, што фінансавыя цяжкасці не абмяжуюць культурнай і спартыўнай дзейнасці. Нашы жыхары стварылі калектыў песні, які выступае на розных нашых аглядах, ездзім мы на розныя спартыўныя спаборніцтвы. Дзеля рэабілітацыі і адпачынку робім абмен з жыхарамі іншых дамоў апекі ў Польшчы. Для многіх нашых пацыентаў такія выезды так неабходны, як і лячэнне.

Адсутнасць лекараў у дамах грамадскай апекі, платныя лякарствы, складанае фінансавае становішча паказваюць, што ад рэформаў, на якіх у будучыні могуць скарыстаць найматнейшыя, цяпер пакутуюць найслабейшыя, хворыя і калекія.

**Аляксей Мароз**

Якія мы людзі

# Прысяга

Лекар быў няўмольны.

Чалавек, якога прывяла познім вечарам у бальніцу 15-гадовая дачушка, стоячы пад дзвярыма дзяжурнага хірургічнага аддзялення, аж скручваўся ад болю. Ён ледзь стаяў на нагах, невядома было, як дачка дацягнула яго да шпіталя, хаця ад іх дома сюды было як рукой падаць. Чалавек не адважыўся выклікаць „хуткую дапамогу", каб не сказалі, што так блізка, а хоча ехаць як пан. Зрэшты, мо хтосьці ў той час паміраў на інфаркт, а тых „карэтак" ніколі не замнога. Што тут многа гаварыць: хаця ў горадзе чалавек зрабіў навуковую кар'еру, то ў душы застаўся вяскоўцам з нейкім усё ж комплексам горшасці.

І так стаяў ён перад дзяжурным хірургам, прыніжаны, пакорны, паказваючы, у якім баку баліць, і прасіў у лекара дапамогі, а той, п'ючы каву з нейкімі дзяўчатамі, лаяў яго за тое, што павінен быў прыехаць „хуткай дапамогай", тады ён мог бы яго прыняць у шпіталь. Ну, а калі ўжо прыйшоў сваімі нагамі, дык павінен быў прынесці накіраванне ад лекара з амбулаторыі. Можна ісці і цяпер (лекар падаў адрас), там дадуць накіраванне, бо заўсёды ў іх ёсць дзяжурны лекар, пацешыў ён хворага.

Божа, што рабіць, як вытрымаць... Каб была яшчэ дома жонка, але ж якраз пайшла на курсы вадзіцеляў. Дзе яе цяпер шукаць? І дзе шукаць ратунку? Адкуль жа яму было ведаць, што раптам у баку ён адчуе такі страшэнны боль... Быў наогул цярплівы і паслугамі службы здароўя не злоўжываў. Думаў, што калі раз на нейкіх дзесяць гадоў звярнуўся да лекара, то ён яму дапаможа. А як жа з прысягай Гіпакрата? Паводле яе ж нават і ворагу трэба дапамагчы, а ён усё ж лекару не вораг... Сам жа вучыў студэнтаў і часта гаварыў ім пра тую прысягу.

Маладаы, статны лекар з усмешкай глынуў крыху кавы і павёў чароўным позіркам па дзяўчатах, што акружылі яго. Вядома, яму не балела. А хвораму ўсё няміла. Чалавек ад роспачы і крыўды, не гаворачы ўжо пра боль, які рэзаў яго, ляпнуў дзвярыма і выйшаў з дачкою на двор. Куды ісці? Людзі, што рэгулярна ходзяць да лекара, ведаюць, што і калі рабіць. А тут чалавек зусім дурны. Але ж думалася, што дапамогуць, ну, як жа, павінны былі дапамагчы. Бо ж прысяга Гіпакрата...

Чалавек даслоўна гатоў быў легчы на зямлю. Быў ужо, аднак, лістапад, пачыналіся замаразкі. Трэба было нешта рабіць. Яны пайшлі з дачкою на другі бок шпіталя. Мо там знойдзецца нейкі больш добразычлівы лекар. Не, там нікога не было, так прынамсі паінфармавала іх прыбіральшчыца з анучай у руках.

На другім баку вуліцы, якраз насупраць той няшчаснай хірургіі, была станцыя хуткай дапамогі. Мо там хаця дадуць якісьці ўкол?.. Бацька з дачкой накіравалі свае крокі туды. Дзяўчынка, якая ўжо не мела сіл падтрымліваць бацьку, ад крыўды і жалю плакала.

Тут ужо справа пайшла барздзэй. Былыя студэнты адразу прынялі свайго настаўніка. Далі ўкол і пазванілі на хірургію таму лекару. А тады „хуткай дапамогай" (за якую пазней прыслалі рахунак) завезлі на другі бок вуліцы, на тое ж дзяжурнае хірургічнае аддзяленне, дзе хворы ўжо быў гадзіну таму.

* * *

Жонка хворага чалавека, вярнуўшыся дахаты, знайшла на стале запіску. Не распранаючыся, яна кінулася ў бальніцу, якую назвала дачка. Ужо пры ўваходзе ў аддзяленне, у тапачках, сустрэў яе лекар. Проша пані, ваш муж у „хуткай дапамозе", сказаў ён дрыжачым голасам, я не ведаў, бо не вучыўся ў Беластоку. Зразумейце мяне, я не хацеў. Жанчына глянула на яго са здзіўленнем і толькі сказала: „У вас пад дзвярыма мог сканаць чалавек! Якая розніца, дзе ён працуе?!" Завярнулася і пабегла ў „хуткую".

Сапраўды яе мужа прынялі б у бальніцу, калі б ён сказаў прынамсі тое, што працуе ў ахове здароўя. Без ніякіх цырымоній. Лекар-хірург, на няшчасце, закончыў іншую акадэмію, і не ведаў з твару ўсіх тутэйшых прафесараў, а пра прозвішча хворага нават не запытаўся. А чалавеку не тое, што гонар не дазваляў прадстаўляцца, яму проста і ў галаву не прыйшло, што пацыента можна трактаваць неаднолькава. І таму прасіў лекара, каб дапамог яму, так як павінен дапамагчы хвораму чалавеку.

* * *

Хаця многія варажылі, што цяпер-то малады хірург напэўна развітаецца з пасадай, нічога такога не здарылася. Навошта злосць насіць у сабе?! Нырка ўжо была не працавала, бо камень заткнуў мачаточнік. Але зрабілі аперацыю — і зноў працуе. Чалавек нават і не падумаў пра нейкую помсту — мог бы ж зламаць маладому лекару кар'еру. Ды і ці ж ён сам — пуп свету?! Адправіў бы той лекар ад дзвэрэй кожнага, хто не прыехаў бы „хуткай", або, прыйшоўшы, не меў накіравання з амбулаторыі...

* * *

Мінула некалькі гадоў. Чалавек, які калісь прасіўся ў доктара, каб прыняў яго (хаця мог бы і не прасіцца), паздаравеў і, дзякуй Богу, больш не мусіў карыстацца парадамі дактароў. Людзі яму параілі піць нейкі індыйскі лек з зёлак, што растуць у Тыбеце, дык купілі яму знаёмыя гэты лек на рынку, і так вылечыўся сам. Камяні перасталі мучыць, і пастаянная ўсмешка паявілася на твары.

Але лекару таму не пашанцавала. Жонка яго пайшла радзіць дзіця. Была ўвесь час неспакойная, нервовая, усё прымала нейкія лекі. Калі пачаліся роды, яна, ужо на стале, раптам пасінела і страціла дыханне. Памерла. Такое здараецца ў нашы дні рэдка, але бывае. Прыбег найлепшы спецыяліст-акушэр у клініцы, у апошнюю хвіліну выхапіў дзіцятка з лона маці і выратаваў яго.

Лекар-хірург не дараваў смерці жонкі. Падаў на лекараў у суд, які ўжо цягнецца пару гадоў, хаця ніводзін лекар не парушыў тады прысягу Гіпакрата. А найбольш мусіць тлумачыцца той акушэр, якому ўдалося выратаваць яго дзіця.

**Ада Чачуга**

# Такі сорам!

За чыгуначнай станцыяй у Чаромсе, побач перонаў, знаходзіцца месца для мытнай адпраўкі аўтафураў — ТІРаў. Уласнікам плошчы з'яўляецца чыгуначная станцыя, а карыстаецца ёю мытнае аддзяленнее.

Побач пляцоўкі стаіць лаўка для адпачынку, якую прыцягнулі з перонаў шафёры. Паставілі яны таксама сметніцу для адпадкаў. Ад зімы сметніца запоўнена па берагі, а побач яе валяецца куча фольгавых і папяровых упаковак, бутэлькі з-пад напояў і многае іншае. Паперу і фольгавыя адпадкі разносіць вецер па дарозе, якая вядзе ў напрамку паравознага дэпо і Кузавы.

На гэты балаган прыглядаюцца штодзённа шафёры аўтамабіляў і пасажыры з вокнаў вагонаў, праязджаючыя першым перонам. Што яны падумаюць пра Чаромху — няцяжка здагадацца. Мытнае аддзяленне плаціць арэнду чыгунцы за карыстанне пляцоўкай. Чыгунка, у сваю чаргу, плаціць за прыбіранне станцыі прыватнай фірме „Цэнтр-паслуга". Хто тады адказны за прыбіранне месца для мытных адправак — карыстальнік ці ўладальнік, які бярэ грошы за арэнду? А мо гайнаўская санэпідэмстанцыя вырашыць галаваломку?

**(ус)**

# Папаўнялі „магілёўскую” вобласць

**Успаміны Яна АНДРАЮКА з Трасцянкі, народжанага ў Бялках у 1922 годзе.**

Да вайны было ў Бялках каля 80 двароў. Была і чатырохкласная школа, пасля якой ніхто далей не вучыўся — нават у Трасцянку ніхто не хадзіў. А пра навуку ў горадзе нават мовы не было. Адзін дарожны майстар прадаў палову чацвярціны зямлі каб сына вучыць, але не вытрымаў, бо цяжка было, а і беларусаў не любілі. І цяпер таксама: жывем і мусім *падчыняцца*.

Калісь пра меншасці ніхто не ведаў. Ні газет не было, ні радыё ніхто не меў; такі быў час. Нават у Беласток не ездзілі. Мой бацька толькі два разы ў год вазіў дровы прадаваць. Вязаў у пучочкі, якія прадаваў па дзесяць грошаў, а ўсяго дроў завозіў на дзесяць злотаў. І то адзін раз ашукалі: адзін хлюсцік падышоў да бацькі размяняць дзесяць злотаў і фальшывыя грошы даў.

Пры санацыі радыё меў толькі адзін з Жыўкова, у якога было сорак гектараў зямлі. І як пачалася вайна, то па тым радыё палякі крычалі: *To nie my napadli tylko Niemiec. Nie oddamy ani guzika!*

Як настал і саветы, дык можна было купіць патэфон, радыё, але жыццё нецікавае было. Ганялі нас у лес да вывазкі, у Ізобы — там па тыдні выраблялі план, начавалі ў Татараўцах. У сорак першым годзе, зімою, сталі нас браць гатовіць у армію. Бралі ў Агароднікі, бо там наш сельсавет быў, і навучалі абароны перад газамі і хадзіць па маршрутах. Навесну паставілі нас у Заблудаў, у ваенкамат, на камісію і восенню мелі браць у армію...

Як настаў немец, дык каменне вазілі пад Пяшчанікі, бункер будаваць. У сорак другім, у сенакос, пачалі немцы браць на работы. Бралі ў Міхалова, у амтскамісарыят, пашпарты мяняць. І як узялі туды, дык назад ужо не вярталіся: забіралі за драты і пасля некалькіх дзён — за драты ў Беласток. Адразу забралі майго брата, які жанаты быў і чацвёра дзяцей было ў яго.

Я пашпарту яшчэ не меў, то далі мне толькі картачку, што *Weissruss*. На *Галавасек* прыехалі ў Бялкі жандары з Міхалова. Я акурат канём бульбу выараў і на панадворку быў разам з бацькам. Паклікалі мяне і забралі; многа нас маладых узялі ў Міхалова. Пабылі там пару дзён і ў Беласток. А там нас агледзелі, выбралі здаравейшых і пяшком у Супрасль пагналі. Там, у маёнтку, была школа швейцараў; вучылі м.інш. каровы даіць. Жылі мы ў аборах, на нарах. Я напісаў дадому ліст і праз тыдзень бацька з Лук’янюком, суседам, прыехалі — торбачкі з баранінай нам прывезлі, але жандары не дазволілі нам сустрэцца. Пра іх прыезд паведамў нас паліцай-паляк. Пасля мы дваіх і яшчэ адзін з Кухмоў, што каля Юшкавага Груда, дагаварыліся з тым паліцаем, каб нам гарэлкі прынёс. Ноччу, калі ўсё супакоілася, мы пайшлі ў нашу школу выпіць. Паліцай прынёс літр самагонкі. Закусвалі цыбуляй. Мы пілі мала, а паліцай — упіўся. І мы траіх уцяклі. Я дарогу ведаў, бо пры саветах там працаваў. Мінулі мы Жэдню і ў Саколі кухмавец аддзяліўся ад нас, а мы пайшлі ў Подваркі; там мая сястра на калёніі жыла. Праз пару дзён яшчэ адзін з Бялок уцёк. Хаваліся мы цэлы месяц, у клуні начавалі; пра партызанку ніхто не думаў. Але даведаліся пра нас; праўдападобна адна баба, бо яе сына мы не выцягнулі...

На Пакрову раненька прыехала два самаходы немцаў, абставілі сяло і жандары зараз у нашу хату. Пытаюць бацьку, дзе сын, а я адзываюся:

— Я тут, у хаце.

Прыйшоў немец, Гіс называўся, ён паруску гаварыў, бо з Кубані быў, і давай распытваць мяне. І я яму ўсю праўду сказаў, а ён мне:

— Не бойся, ніц табе не будзе, бо ты быў дома.

Тады яшчэ больш людзей набралі і на фурманках, а нас траіх на самаходах між немцаў, павезлі. Сабака абнюхаў нас, але нічога, бо яму ніхто ніц не казаў. І ў той самы дзень у Беласток нас завезлі, а на другі дзень напхалі нас у быдлячыя вагоны. Частку вагонаў адчапілі ў Аленштайн (Ольштын), а нас у Кёнігсберг завезлі.

Папаў я на працу ў кухню на дзве тысячы чалавек. Са мною быў яшчэ адзін з Брэста, беларус, бо палякаў на кухню не бралі. Трэці быў француз. Апрача нас было сем бабаў рускіх — яны бульбу чысцілі — і сем немак. Я быў сумленны і мне ўва ўсім давяралі. Аднойчы паслалі мяне ў такое месца, дзе толькі немцам дазвалялася — там мяса было ў халадзільніках — каб я палову каровы з крука зняў. Я таго цяжару не ўтрымаў і мне тым круком левую руку разарвала — жылу вырвала. Пайшла кроў. Быў там доктар для іншаземцаў, але баяліся мяне к яму пасылаць, бо дапусцілі туды, дзе мне не было дазволена. Але кроў не спынялася і я пайшоў у амбулаторыю, два кіламетры. Урач па-руску гаварыў, а медсястра эстонкаю была. Лекар моцна перавязаў маю рану і загадаў ісці ў другую амбулаторыю; даў адрас і я паехаў на трамваі.

Уваўшоў я да таго доктара, а ён у форме — вайсковы. Сястра развязала маю павязку, а кроў ідзе. Доктар аглядае, мне забалела, я руку да сябе пацягнуў, а ён мне адною, другою рукою па тверы і кажа:

— Pole, Schweine! Wegs von hier![1]

А сястра мяне хутчэй у куток, каб той не бачыў і абвязала мяне. Я ў трамвай, а мне ўжо цёпла робіцца, столькі крыві сышло. Вярнуўся я к „свайму” лекару, расказваю яму, а мне ўжо ноч у вачах робіцца. Ён мне яшчэ мацней перавязаў рану і даў адрас яшчэ другой амбулаторыі. Я накіраваўся выходзіць, але дзвярэй не находжу. Сястра выйшла, схапіла мяне пад паху, палажылі на *казэтку*. Давай доктар званіць на *пагатове*; я ўсё чую, а нічога не бачу. І *пагатовя* няма, а ён беспарапынна звоніць, трымаючы мяне за пульс. У рэшце рэшт прыехалі, на насілкі мяне ўзялі і ў самаход. Распытваюць мяне хто я, дзе працую, адкуль родам — усё я ім адказаў. Але як завезлі — я не помню. Ачуціўся, а ў мяне дошчачка прывязана, каб рука не гібалася.

Далі мне паперы, што месяц часу не магу працаваць. Вярнуўся я ў свой лагер, а мяне на *палудзень* запрашаюць. Пайшоў я на другі дзень, занёс паперы, пахадзіў яшчэ пару дзён і пабаяўся, што мне загадаюць працаваць, то мне ў конаўцы ежу мой таварыш прыносіў. Мінуў месяц і я стаў асцярожна працаваць.

***(заканчэнне будзе)***

**Аляксандр Вярбіцкі**

[1] Паляк, свіння! Вон адсюль! (ням.)

# Лісты з Беларусі

**З верасня мінулага года наша рэдакцыя высылае пад дзвесце экземпляраў „Нівы” бібліятэкам, навуковым цэнтрам, шматлікім арганізацыям, вядомым культурным, грамадскім і палітычным дзеячам у Беларусі. Наша акцыя сустрэлася з прыхільнасцю атрымальнікаў, большасць якіх патэлефанавала нам або даслала пісьмы. Вось вытрымкі з некаторых лістоў.**

**Валеры Мазынскі** — дырэктар тэатра „Вольная сцэна” з Мінска:

*Дазвольце выказаць вялікую ўдзячнасць і не меншае задавальненне з нагоды неспадзяванага з’яўлення ў маёй паштовай скрыньцы Вельміпаважанай „Нівы”. Цяпер і мае „вольнасцэнаўцы” маюць магчымасць уведаць навіны з блізкадалёкай Беластоцкай старонкі.*

**Анатоль Фурс** — загадчык Аддзела камплектавання Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі:

*Выказваем Вам шчырую падзяку за дасылку ў нашу бібліятэку Вашай газеты. Яна захоўваецца ў фондзе рэдкіх кніг бібліятэкі. Мы вельмі зацікаўлены і надалей атрымліваць Вашу газету і кнігі, якія Вы выдаеце.*

**Юрась Сцяпанаў** — старшыня Віцебскай філіі Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына”:

*Нядаўна выпадкова трапіў да мяне сёлетні чацвёрты нумар беластоцкай „Нівы”. Гэтак пасля доўгага перапынку я займеў магчымасць прачытаць хоць адзін выпуск вашага выдання. Часам слухаю агляд „Нівы” ў перадачах Беларускай рэдакцыі Пятай праграмы Польскага радыё. (...) Даўней я выпісваў вашу газету, але потым падпіска была скасавана. (...) „Ніва”, „Часопіс”, Беларуская секцыя V праграмы ПР — цудоўныя інфарматары аб жыцці беларусаў Беласточчыны. Калі якогасьці з іх не хапае, то, на маю думку, уяўленне беларусаў у нашай краіне пра беларускія справы ў Польскай дзяржаве недастатковыя. Гэтыя крыніцы інфармацыі ўзаемадапаўняюць адна адну і дапамагаюць нашым суайчыннікам глыбока ўсведамляць рэаліі беларускага жыцця ў Польшчы.*

**Янка Брыль** — пісьменнік:

*Пішу Вам, каб шчыра падзякаваць за „Ніву”, якую з восені атрымліваю, з цікавасцю чытаю і дзялюся ёю з сябрамі. Прыміце і пажаданне як найбольшых поспехаў у далейшай высакароднай працы.*

**Уладзімір Казбярук** — пісьменнік, гісторык літаратуры:

*Пакуль я даваў рады, то „Ніву” выпісваў заўсёды. Падзеі дзесяцігадовай даўнасці пазбавілі мяне такой магчымасці. Сёння з „Нівай” я сустракаюся вельмі рэдка. Але вось трымаў я ў руках трэці нумар газеты з артыкулам пра К. Каліноўскага і знайшоў там думкі сугучны таму, што я пісаў сам. Вам робіць гонар тое, што пішаце праўду і не займаецеся фальсіфікацыяй гістарычнага працэсу. Жадаю Вам новых поспехаў у Вашай так патрэбнай і высакароднай працы.*

* * *

*Я вам вельмі і вельмі ўдзячны за такі мілы падарунак — за тыя нумары „Нівы”, якія Вы мне прыслалі. Я адразу ж узяўся іх засвойваць, але яшчэ не паспеў усё прачытаць. Вялікую прыемнасць Вы мне зрабілі. А я буду чытаць не толькі сам, але і дам яшчэ каму-небудзь.*

**Людміла Піскун** — аспірант Народнага інстытута асветы:

*Чытаем „Ніву”, робім агляд і на практычных занятках са студэнтамі. Дзякаваць за ўсё.*

**Г. Д. Вінярскі** — выканаўчы дырэктар Міжнароднага фонду „Беларускі кнігазбор”:

*Мы, супрацоўнікі МФ „Беларускі кнігазбор”, з вялікім захапленнем чытаем нумары штотыднёвіка „Ніва”, з цікаўнасцю сочым за жыццём нашых суайчыннікаў на Беласточчыне. Газета „Ніва” пастаянна прыходзіць у ЗБС „Бацькаўшчына”, з якім мы месцімся ў адным будынку.*

# Не апасаюцца прыезджых

**У нас людзі не апасаюцца прыезджых, так як у Пуньску і не бачаць ніякай небяспекі ў сувязі з будовай пагранічнай заставы, — кажа войт Дубіч-Царкоўных Анатоль Паўлоўскі. — Калі 99 працэнтаў жыхароў у гміне — праваслаўныя, дык асіміляцыя можа быць толькі ў адзін бок, на карысць праваслаўных.**

Яшчэ ў чэрвені 1998 года пастановай Рады гміны зямля каля вёскі Дубічы-Царкоўныя бясплатна перададзена была Падляшскаму аддзяленню Гранічнай аховы РП, якое ўжо ў 1999 годзе плануе распачаць там будову пагранзаставы.

— Радныя нашы бясплатна перадалі зямлю, каб толькі хутчэй пачалі будаваць заставу. Хаця далі мы пагранічнікам некалькі прапаноў, яны рашыліся будавацца каля вёскі. Думаю, што мелі на ўвазе зручны доезд да галоўнай дарогі і бытавыя справы. Будзе ім блізка ў магазін, а іх дзецям у школу будзе зручна, — гаворыць войт. — Ужо прыходзяць бацькі і пытаюць ці хутка адкрыюць пагранзаставу, бо сыноў, якія працуюць пагранічнікамі ў Чаромсе, Кузніцы ці Мельніку хацелі б бліжэй дому перанесці.

Цікавілі мяне, перад усім, выказванні жыхароў Дубіч-Царкоўных, якія будуць суседзямі пагранічнікаў.

— Танкамі ездзіць па вуліцы не будуць, то і перашкаджаць не будуць, — гаворыць Ян Карпюк. — А можа яшчэ дадатковыя месцы працы будуць.

— Праца наўрад ці будзе. Зробяць масленае ацяпленне і нават апальшчыкі будуць ім непатрэбныя, — кажа Мікола Стасельнік. — Але ў вёсцы ніякай гутаркі аб гэтым не было. Калі б людзей хвалявала справа заставы, напэўна гаварылі б.

— Мы ў школе спадзяемся, што дадатковыя вучні будуць, бо працаваць прыедуць напэўна маладыя пагранічнікі з сем’ямі, — кажа дырэктар Падставовай школы ў Дубічах Ніна Добаш-Карпюк.

— Ёсць ужо нават першае дзіця з пагранзаставы — Крыстыян Макац, — кажа настаяцель праваслаўнага прыхода ў Дубічах айцец Славамір Аўксенцюк. — Яшчэ ў чэрвені мінулага года, калі Рада гміны перадала зямлю на будову заставы, Януш Дар’юш Макац, пагранічнік з Чаромхі, прасіў ахрысціць яму ў Дубічах сына. Гаварыў, што ў будучыні хоча перасяліцца да нас і працаваць на пагранзаставе, дык я задаволіў яго просьбу і ахрысціў дзіця. Заўважыў я таксама, што сярод нашых хлопцаў прафесія пагранічніка апошнім часам стала моднай. Ведаю такіх, якія паступілі ў тэхнікумы дзеля пазнейшай працы на мяжы, бо пасля прафесійнай школы на заставы не прымаюць. Можа начальства і польскае будзе, але на звычайных пагранічнікаў, думаю, будуць і нашых прымаць, бо яны ж найлепш ведаюць ваколіцу. У нас у Дубічах апрача праваслаўных многа іншых веравызнанняў і толькі каталікоў няма, дык жаўнеры будуць першымі, але не думаю, што будуць ствараць нейкія клопаты.

Аптымізм усіх маіх суразмоўцаў пацвярджае толькі словы войта, што людзі не апасаюцца прыезджых, але час хутка пакажа, ці мары і надзеі жыхароў Дубіцкай гміны здзейсняцца. Праз некалькі гадоў выявіцца рэальны ўплыў пагранзаставы на жыццё гміны.

**Аляксей Мароз**

# Думаюць пра будучыню

У лютым праводзіліся выбары солтысаў. Для многіх вясковыя сходы сталі нагодай сустрэцца з прадстаўнікамі гміннай адміністрацыі і прад'явіць патрабаванні ў адрас мясцовага самаўрада.

— Аб чым гаварылася падчас сустрэч? — пытаю бурмістра Кляшчэляў Аляксандра Сяліцкага.

— Асноўнае месца займала мадэрнізацыя дарог, — кажа бурмістр. — Амаль у кожнай вёсцы знойдзецца кавалак старой гравейкі, якая патрабуе рамонту. Некаторыя вуліцы неабходна асфальтаваць. Многа ўвагі прысвячалася рэформе аховы здароўя. У нас, напрыклад, ліквідуецца хуткая дапамога пры мясцовай амбулаторыі. Адсутнасць аўтамабільнага транспарту на вёсцы ўскладняе кантакт лекара з пацыентам, абмяжоўвае дамашнія візіты, перабівае рэгулярны давоз крыві ў Гайнаўку. Рэформа больш служыць эканамічным прынцыпам кіруючай кааліцыі чым грамадству. Выносіліся таксама пытанні тэлефанізацыі, якія ў нашай гміне вырашацца на працягу двух гадоў.

— А чым будзе займацца Рада горада ў бліжэйшай будучыні?

— Асноўная справа для нас гэта пабудова вадасховішча ў Рэпчыцах, — працягвае бурмістр Сяліцкі. — Распрацоўкай дакументацыі займаецца „Промэль" і бюро праектаў у Варшаве. Кошт дакументацыі складзе 50 тыс. злотых. Будзем працягваць пабудову санітарных калектараў пры вуліцах. Будзе падтрымка і для маладзёжнай спартыўнай каманды з боку спонсараў. У гэтым годзе пажарнікі будуць адзначаць 75-гадовы юбілей сваёй дзейнасці. Святкаванне рашылі мы правесці ў чэрвені і спалучыць яго з адкрыццём летняга купальнага сезона. І яшчэ адно цікавае мерапрыемства рыхтуецца на Дні Кляшчэляў: адкрыццё помніка каралю Зыгмунту Старому I, які ўпершыню прысвоіў нашаму гораду магдэбургскае права. Аўтарам помніка з'яўляецца Ежы Грыгарчук з Беластока. Працай і зборам грошай займаецца Грамадскі камітэт пабудовы помніка, які ўзначальвае Юзэф Дрангоўскі.

— Ці будзе гімназія ў Кляшчэлях?

— Адпаведную пастанову ў гэтай справе Рада прыняла 15 красавіка г.г. Гімназія будзе змяшчацца ў даволі прасторным будынку Пачатковай школы і канчаткова вучыцца ў ёй будзе больш ста дваццаці вучняў. У нашу гімназію будуць хадзіць дзеці з Елянкі, Дубіцкай гміны, а таксама з Дашоў, у якіх ліквідуецца школа. Хвалюе нас давоз дзяцей. Аўтамабілі нашы старыя. Спадзяемся новага аўтобуса, калі Міністэрства адукацыі стрымае абяцанне.

У размове даведаўся я яшчэ, што ў колішняй драўлянай школе ў Кляшчэлях арганізуецца Рэгіянальны музей. А ў будынку школы ў Дашах плануецца маленькае прадпрыемства або атэльe. Гміна разглядаецца за разважлівым прадпрымальнікам, які змог бы стварыць некалькі новых месц працы.

Па-даўнейшаму застанецца шасцігадовая школа ў Саках. Старэйшыя дзеці з гэтай вёскі будуць давозіцца ў кляшчэлеўскую гімназію.

**Уладзімір Сідарук**

# 50 гадоў разам

Незабыўнае і кранальнае мерапрыемства адбылося ў Кляшчэлях. За шматгадовае шлюбнае сужыццё медалі атрымалі пары: Міхал і Раіса Герасімюкі, Дзмітры і Надзея Якубоўскія, Барыс і Мар'я Нігярэвічы ды Ілья і Надзея Зялінкі з Сухавольцаў, Сымон і Вера Пекуціны з Дашоў, Аляксандр і Яўгенія Казёл з Пятроўшчыны, Пётр і Анна Купрыцюкі, Павел і Станіслава Рэпко ды Лявон і Вера Жылко з Кляшчэляў, а таксама Віктар і Ніна Лемешы з Залешанаў.

Бурмістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі пажадаў юбілярам здароўя, шчасця ды многіх гадоў жыцця. З мастацкай праграмай выступілі мясцовыя школьнікі. Юбіляры былі ўсхваляваныя, калі для іх гралі вясельны марш. Яны ўдзячны бурмістру, сакратару ўправы Аліне Снарскай ды кіраўнічцы ЗАГСа Крыстыне Каліноўскай за тое, што іх не забываюць. **(гай)**

# У гадавіну Акту 25 Сакавіка...

Кафедра беларускай культуры запрашае на даклад Алега Латышонка і Яўгена Мірановіча **„Дзве незалежнасці"** — вул. Лінярскага 4, зала 36, 25.03.1999, гадз. $15^{\underline{30}}$.

# Іх кроў ратуе жыццё

У Нараўчанскай гміне найлепшымі донарамі з'яўляюцца нараўчане: Сцяпан Валкавыцкі (аддаў ён 22 літры крыві), Андрэй Стульгіс (17), Андрэй Стыпулкоўскі (15) і Ян Стальбоўскі (14 літраў), а таксама жыхар Міклашэва — Юрый Езёрак (12 літраў). Іх кроў ратуе жыццё іншым. **(яц)**

# Калі плаціць

Студзеньскі рахунак за тэлефон саставілі мне ў Ольштыне 12 лютага, але з Гайнаўкі адправілі яго дзесяць дзён пазней. На пошту ў Трасцянцы трапіў ён 23, а пісьманосец прынёс мне яго ў Бялкі толькі 25 лютага. У рахунку быў памечаны тэрмін аплаты — 26 лютага. Часу заставалася няммнога. Каб не спаганялі з мяне пеню, прыйшлося даць грошы пісьманосцу і прасіць яго аплаціць рахунак. Пазней па радыё паведамілі, што тэрмін аплаты пераносіцца на 5 сакавіка. А чаму б не ўстанавіць іншы тэрмін, напрыклад, пятнаццаць дзён ад даты атрымання рахунка?

**Мікалай Лук'янюк**

# Папраўка

У 12 нумары „Нівы" подпіс пад здымкам на 5 старонцы павінен гучаць наступным чынам: *Георгій Валкавыцкі, Ада Чачуга і Мікалай Самоцік на I з'ездзе выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя ў 1974 г.*

За дапушчаную памылку перапрашаем.

**Рэдакцыя**



# Якую ваду п'юць жыхары Арлянскай гміны?

У Арлянскай гміне працуюць чатыры водазаборныя збудаванні. Паводле Санітарна-эпідэміялагічнай станцыі ў Бельску-Падляшскім, павінны яны падаваць у водаправодную сетку ваду адпаведнай якасці: у адным літры ўтрыманне жалеза не павінна перасягаць 0,5 мг, а марганцу — 0,1 мг. За якасцю вады сочыць санэпідэмстанцыя, якая сама меней штокварталу кантралюе паасобныя водазаборы.

Водазабор у Алекшах пастаўляе найлепшую ваду і забяспечвае нават вёскі ў суседніх гмінах: Ляўкі, Кнарыды і Шашылы. У мінулым годзе ўсе санітарныя кантролі пацвердзілі дабраякаснасць вады. Вада мяккая.

Водазабор у Крывятычах знаходзіцца на тэрыторыі Сельскагаспадарчага кааператыва і карыстаюцца ім жыхары Крывятыч і Мора. У 1998 г. сем праверак дало станоўчыя вынікі. Вада ўдвая цвярдзейшая за ваду з алексіцкага водазабора.

Водазабор у Орлі забяспечвае пітной вадой пяць населеных пунктаў: Орлю, Кашалі, Міклашы і Рудуты. Вынікі шасці мінулагодніх праверак былі ніжэйшыя за дапушчальныя паказчыкі.

Водазабор у Шчытах-Навадворах знаходзіцца на тэрыторыі свінафермы і пастаўляе 218 жыхарам абодвух Шчытоў (Шчытам-Дзенцялову таксама) няякасную ваду, якая ўмоўна была дапушчана да спажывання. Утрыманне жалеза ў ёй складае ажно 1,16 мг у адным літры, а аміяку — 0,6 мг. З васьмі праведзеных у мінулым годзе кантроляў аж шэсць дало адмоўныя вынікі. 16 чэрвеня 1998 г. войт гміны быў за гэта пакараны 200-злотавым штрафам. Будова водаправоднай лініі з Орлі ў Шчыты была занесена ў інвестыцыйны план на 1998 г., а пасля адтэрмінавана на 1999 г., аднак солтыс Пётр Бяроза сумняваецца, бо войт абяцаў спачатку пакласці асфальт на вясковай вуліцы. А жыхары Шчытоў у далейшым вымушаны карыстацца вадою, якую п'юць свінні на ферме.

**Міхал Мінцэвіч**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, быццам знаходжуся я ў нейкай кватэры. Кватэра гэта быццам не мая. У ёй нібы тры пакоі ці нейкія памяшканні. Няма ніякай мэблі, няма таксама сцен. Кватэра быццам падзеленая на тры часткі, але не ведаю, чым.

Я бачу, што ў гэту хату людзі нанеслі шмат гразі са снегам — аж па костачкі. Я пачынаю прыбіраць адзін з пакояў. Прабую прыбраць анучай на швабры, але гразі тут так многа, што мне не ўдаецца давесці да парадку гэты пакой. Я гартаю гэту гразь з аднаго месца ў другое, а яе ўсё не меншае. Баюся за гэты сон, Астроне.

**Марта**

Астроне! Была ўжо амаль раніца, калі мне прыснілася, што ў нашай кватэры балаган, брудна. І сяброўка з работы ў нас. Бачу, яна легла на разасланы ложак. Я накіравалася да акна (яно малое), бо там штосьці ўбачыла, але што — не памятаю. Ці гэты сон хаця не кепскі?

**Мар'я**

Марта! Нейкія брудныя справы не даюць табе спакою. Плёткі, абвінавачанні не мусяць, аднак, датычыцца тваёй асобы, бо была ты ў казённым доме. Цяжка пазбыцца іх. Ты прабуеш прыбіраць той пакой, але, бач, табе гэта ніяк не ўдаецца. Мо будуць тры нейкія справы.

А табе, Мар'я, той балаган сніцца на перамену кватэры або працы. Нешта ў гэтых справах у цябе зменіцца. А бруды і непрыемнасці пры гэтым, на жаль, будуць. Нешта ў сувязі з той сяброўкай. **Астрон**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 850. Пётр Германюк (Аўгустаў) .......... 50,00 зл.
4 851. Інакенцій Сідарук (Гайнаўка) .......... 6,00 зл.
4 852. Уладзімір Мінько (Гайнаўка) .......... 44,00 зл.
4 853. Віктар Кірылюк (Гайнаўка) .......... 48,00 зл.
4 854. Мікалай Клімюк (Гайнаўка) .......... 12,00 зл.
4 855. Надзея Андраюк(Гайнаўка) .......... 14,00 зл.
4 856. Марыя Аўласюк(Гайнаўка) .......... 50,00 зл.
4 857. Ахвяраванні сабраныя ў скарбонку падчас карнавальнай забавы .......... 1 085,78 зл.
4 858. Уладзімір Асіпюк (Чыжыкі) .......... 12,00 зл.
4 859. Уладзімір Васілюк (Гайнаўка) .......... 6,00 зл.
4 860. Марыя Здаsucceedоўская (Гайнаўка) .......... 18,00 зл.
4 861. Юры Здаsucceedоўскі (Гайнаўка) .......... 18,00 зл.
4 862. Ян Сычэўскі (Беласток) .......... 80,00 зл.
4 863. Валянціна Ласкевіч (Беласток) .......... 50,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 3016.**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




*Уступленне ў НАТО — Гайнаўка, 12.03.1999, бар „У Валодзі”.* Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

**Фрашкі пра нашых**

## *Вее вецер*

Нос паставіў: адкуль вее
вецер пераменаў?
Адвярнуцца не паспееш —
рве адзенне з членаў.

Ступіш — гразка,
цягне газам,
смярдзіць з УНІ-таза.

Зарасла густою раскай
багна да адказу.

А той бок трасе буньчукам,
зыркім вокам сочыць,
ў мозг унушае банялюкі,
праведнасць у крокі.

Мы б сядзелі тут ад веку,
хай бы не чапалі,
а далі жыць чалавеку,
што „тутэйшым” звалі.

**Вандал Арлянскі**

**Пародыі**

## *Блышыны рай*

*Сяджу на карку свету*
*Як тая блыха...*
*Спі, Еўропа, спі...*
*А мы, дзве блыхі,*
*Усю тваю кроў*
*Вып'ем і лопнем...*
***Аліна ЛЕАНЕЎСКАЯ***

Каму — ха-ха, каму — хі-хі...
Спі, Еўропа, спі.
Мы дзве кусучыя блыхі,
За долар нас купі.
Паскачам разам за Дунай,
Пасля махнем у Бон.
Ты нас кармі і даглядай,
Як самы светлы сон.
Мы дзве вясёлыя блыхі,
Для нас Еўропа — рай.
Давай забудзем ўсе грахі —
Абскачам родны край.
На карак свету паляцім —
Еўропы мала нам.
Каго укусім, пасядзім,
І вып'ем па сто грам.
Мы дзве жаданыя блыхі —
Атрутай нас не пырскай.
Не трэба нам куток глухі —
Мы на падлозе, блізка.

**Сяргей Чыгрын**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. плоская закрытая каробка, у якую змяшчаецца магнітная стужка, 7. вучань Хрыста, 8. Хачатур, армянскі паэт (1805—48), 9. горад на Гомельшчыне, 10. прыбор, прылада, 14. жыватворны напітак, 18. Вісентэ, чылійскі паэт (1893—1948), 19. поўная адсутнасць газу, 20. сетка тыпу невада, 21. псеўданім.

**Вертыкальна:** 1. сумка-чахол для стрэл, 2. прыстасаванне для прыпрэжкі каня, 3. вытрыманая моцная гарэлка, 4. людзі нанятыя для апладзіравання, 5. добрая далёка ідзе, а кепская яшчэ далей, 6. горад і заліў на Хонсю, 11. дагавор на выкананне работы, 12. Пітэр, фламандскі жывапісец (1577—1640), 13. прамысловая рыба сямейства трасковых, 15. казацкі афіцэрскі чын у царскай арміі, 16. масляністае рэчыва ў жывёльных і раслінных тканках, 17. хуткі танец мексіканскага паходжання. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 7 нумара**

**Гарызантальна:** Апіа, бакал, брусок, гяур, пірог, аладка, калодзеж, баран, калготкі, батыскаф, нумар, „Рэчанька”, літара, аксід, рынг, кумпяк, проса, амар.

**Вертыкальна:** паліца, сарока, пляцоўка, абраз, Сураж, бочка, гангстэр, лезгінка, баба, рота, атам, літр, афінянка, укакра, ахінса, цівун, рампа, чарка.

Рашэнне: **Надзея Артымовіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Наталлі Герасімюк** і **Яну Карчэўскаму** з Гайнаўкі.

# Кароткі курс параноі

**Каго баіцца Лукашэнка?**

Адказ даваў Станіслаў Станіслававіч, лідэр СД белай Рутэніі, „гістарычны” прэтэндэнт на прэзідэнта. У салон „Выбарчай” прыйшоў ён у выцертых у варшаўскіх кабінетах штанах і з пакутніцкай грымасай на твары. Гэтая грымаса не пакідала яго на працягу ўсёй прэс-канферэнцыі. Уладкаваўшы ў ганаровае крэсла ўзгадаваныя на застойных пашах свае цялесныя габарыты, пачаў ён казку пра ненармальную сітуацыю ў белай Рутэніі.

Краінай кіруе нелегальны прэзідэнт. Да таго псіх. Таму трэба выбраць яшчэ аднаго прэзідэнта, легальнага і нармалёвага. Ім можа быць прызнаны цывілізаваным светам легальны кіраўнік дзяржавы, якім з'яўляецца лідэр СД.

— Навошта тады выбары? — заўважыў Непасвечаны. — У вас жа ёсць два кіраўнікі!

— Вы нічога не ведаеце, — адмахнуўся прэтэндэнт і працягваў:

— Вось, калі будуць два прэзідэнты, тады людзі і ўбачаць, хто з нас праўдзівы.

Прэтэндэнт паклаў нага на нагу, указальным пальцам пачухаў аблыселую патыліцу і нявед чаму голасна падумаў:

— Гітлера народ абраў на свабодных выбарах. І таму нельга за гэта вінаваціць немцаў.

А каго ж тады вінаваціць? — спытаў я ў думках. Дык па-твойму і фюрэр невінаваты. Ён жа народны абраннік. Няўжо вінаваты незгаворлівыя суседзі? — жахнуўся я.

Але мае змрочныя высновы развеяў Непасвечаны, які нясмела заікнуўся:

— Лукашэнку таксама выбраў народ.

— Прапаганда! — рашуча абарваў нахабніка высокі госць і павёў наступ на заходнюю прапаганду. Падкупленыя Лукашэнкам газетныя гангстэры распаўсюджваюць абсалютна беспадстаўны міф, быццам Лукашэнку падтрымлівае народ. І не бачаць, сляпыя, што Ельцын і Лукашэнка будзяць дэманаў мінулага, адкопваюць спарахнелую здань.

— А ці не ты з крамлёўскім царом заканапачваў у Віскулях труну дэманаў? — моўчкі спытаў я. — Памяць здае?

— Маўчаць! — лыпнулі злосцю шэрыя, сацыял-дэмакратычныя вочы ў ганаровым крэсле.

Тут госць спахапіўся, што выступае яшчэ не ў еўрапеізаваным Міжбугаодэрляндзе і абдзяліў дыфірамбамі польскую прэсу:

— На шчасце, вы разумееце, што дзеецца ў нас. Малайцы! Так трымаць!

— А што далей! — пытанне з залы.

Шэрыя вочы „гістарычнага” прэтэндэнта ўспыхнулі палымяным бляскам, быццам ён і прыйшоў сюды дзеля гэтага пытання.

— Калі падзеі разгорнуцца не па нашай думцы, тады мы выбярэм дарогу нацыянальна-вызваленчай барацьбы з усімі вынікаючымі з гэтага паслядоўнасцямі! — агрэў цывілізаваны свет дыпламатычнай заявай, падмацоўваючы яе спасылкай на аўтарытэт:

— Мы не забылі выказвання канцлера Бісмарка пра тое, што рэвалюцыі прыдумваюць рамантыкі, праводзяць фанатыкі, а плёнам карыстаюцца падонкі, — бліснуў хатняй загатоўкай. — А мы яшчэ крыху рамантыкі і фанатыкі.

Біў у лоб. Толькі ў чый? Для якіх падонкаў крыху рамантычны фанатык хоча рабіць пераварот? Ці не лепш, перш чым ляпнуць глупства, падумаць. Дык незабыўны канцлер крылатым словам высмейваў рэвалюцыі.

Непасвечаны іранічна прыжмурыў вочы і спытаў:

— Якую дапамогу чакаеце ад Польшчы?

Аказваецца, пусцяковую: маем толькі дапамагаць яму ў дэмаскаванні жывых міфаў.

— Ну, у гэтым мы майстры! — уздыхнуў я з няскрытай палёгкай. — Добра, што не патрабуе ад нас гераізму і ахвяры крыві. Не хацелася б класці голаў за падонкаў.

Зусім супакоіўся, убачыўшы на другі дзень у „Выбарчай” інтэрв'ю героя пад загалоўкам „Лукашэнка баіцца”. У цэнтры партрэт „гістарычнага” прэтэндэнта: тая ж пакутніцкая грымаса. Быццам *okrześlilsia* на унітазе і ніяк не можа апаражніцца. Быццам закупорыла яго.

Будучы на месцы Лукашэнкі, даў бы я гэтае інтэрв'ю ва ўсе прэзідэнцкія газеты. Тады і без выбараў людзі ўбачылі б, хто тут праўдзівы і нармальны.

З гэтай казкі цешыцца можна толькі недапечаны музыка Ландсбергіс. Надоечы прысніўся яму сон, што ўзброены да зубоў Лукашэнка збіраецца далучыць да белай Рутэніі гістарычную сталіцу з навакольлем. І Сойм паверыў у сон лідэра і прызначыў грошы на адраджэнне Вітаўтавай конніцы. Цяпер літоўцы могуць спаць спакойна. Балтарусы аддаюць перавагу вайне „сваіх” са „сваімі”.

Усміхайцеся, спадары!

**Сідар Макацёр**

PS. Наш смех — смех праз слёзы. Гістарычная даведка: Гітлера народ не выбіраў. Канцлерам назначыў яго бундэстаг.

# „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Ці будзеш кахаць мяне, калі пажэнімся?

— Безумоўна; мне заўсёды падабаліся замужнія.

* * *

— Хочаш са мною ажаніцца ўжо пасля пяці дзён знаёмства...

— Я знаёмы з табою ўжо даўжэй, чым табе здаецца: я працую ў банку і рахунак твайго бацькі ведаю ўжо пяць гадоў.

* * *

— Чула я, што ты выйшла замуж...

— Ужо год таму.

— І шчаслівы твой муж?

— Спрабаваў бы не быць!

* * *

— З тае пары, як я згубіў ключ ад склепа, спыніліся сваркі між мною і жонкаю.

— А што ў тым склепе?

— Яна.

* * *

— Два месяцы таму, — кажа кадравік працаўніку, — бралі вы вольныя дні на апеку над хворым сынком. У мінулым месяцы ўзялі вы водпуск з нагоды нараджэння дачкі. А сёння зноў просіце чарговы; па якой прычыне?

— Бяру шлюб.

* * *

Лекар пасля ўступных агледзін пацыенткі:

— Не падабаецца мне ваш язык...

— А то вы ўжо ўспелі згаварыцца з маім мужам?!

* * *

— Трэба вам больш забавы, — гаворыць лекар пацыентцы, — і павінны вы гэта рабіць з найбольшаю ахвотай.

— На жаль, маю вельмі раўнівага мужа.

* * *

— Чаму робіш галушкі рознай велічыні? — пытае муж жонку.

— Ты ж сам прасіў, каб зрабіць меню больш разнастайным.